

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4709) 15 сакавіка 2013 г.




## Пункціpам

✔Сёння ў Беларусі адзначаецца Дзень Канстытуцыі. Прыняты Асноўны закон краіны быў у 1994 годзе. Ён вызначыў Рэспубліку Беларусь як унітарную дэмакратычную сацыяльную прававую дзяржаву, якая валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку. Па традыцыі ў гэты дзень праводзяцца ўрачыстыя мерапрыемствы.

✔ Падзяка Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі за шматгадовую плённую працу па абароне правоў і інтарэсаў дзяцей аб'яўлена рэспубліканскаму грамадскаму аб'яднанню «Беларускі дзіцячы фонд».

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю народнай артысткі Расіі, нашай славутай зямлячкі Марыі Пахоменкі накіраваў спачуванні яе родным і блізкім.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Барыса Васільева накіраваў спачуванне яго блізкім і калегам.

✔ Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў на гэтым тыдні наведаў Латвію па запрашэнні міністра культуры гэтай рэспублікі Жанэты Яўнземэ-Грэндэ. Па выніках перамоў плануецца падпісаць Праграму супрацоўніцтва паміж міністэрствамі культуры краін на 2013 — 2015 гады. Сярод пунктаў праграмы — супрацоўніцтва ў сферы кінематаграфіі, тэатральнага мастацтва, бібліятэчнай і музейнай справы, выставачнай дзейнасці і абменных стажыровак студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ культуры і інш.

✔ Згодна з дзяржаўнай праграмай «Замкі Беларусі» на 2012 — 2018 гады, сёлета аднаўленчыя работы будуць весціся на 22 аб'ектах. Для гэтага плануецца выдаткаваць 35,7 млрд. рублёў, 18 з якіх — сродкі з рэспубліканскага бюджэту, а астатнія — з мясцовых бюджэтаў і пазабюджэтных крыніц.

✔ Творы беларускай фотамастачкі Алены Адамчык з серыі «Беларускі» праекта «Жанчыны Еўропы» прадстаўлены ў штаб-кватэры ЮНЕСКА у Парыжы, дзе арганізавана выстаўка «Стоп гвалту супраць жанчын». Экспазіцыю склалі работы розных напрамкаў мастацтва прадстаўнікоў 8 краін: Арменіі, Беларусі, Балівіі, Індыі, Марока, Нідэрландаў, Францыі і Эфіопіі.

✔ Тыдзень праваслаўнай кнігі стартаваў у Гомелі. Распачаўся ён выстаўкай у бібліятэцы імя Герцэна, дзе прадстаўлена літаратура духоўнай тэматыкі. У межах тыдня запланаваны таксама іншыя выстаўкі, канцэрты, конкурсы, лекцыі святароў і г. д.

✔ Сумесны беларуска-эстонска-латвійскі фільм «Адзінокі востраў» наміраваны на самую прэстыжную кінапрэмію Расіі, краін СНД і Балтыі «Ніка» за 2012 год. Лаўрэаты будуць узнагароджаны 2 красавіка бягучага года.

Падрыхтавала **Таццяна МАСТОЎСКАЯ**



*Фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва*

Тодар КЛЯШТОРНЫ

## Успамін

*Вячэрнія цені апалі...*
*Над рэчкаю дрэмле сасна,*
*А там,*
*У бярозавых далях,*
*Блакіт асыпае вясна.*
*Я першую песню калісьці*
*Складаў а такой жа пары...*
*Шапталася сонная лісце*
*Ў вячэрніх агарках зары.*
*Дрыжэлі зыбучыя хвалі,*
*Каціліся ў сінь тумaноў...*
*Гуслярылі звонкія далі*
*На струнах п'яных салаўёў...*
*Мінаюць і дні і нядзелі*
*(Мінулага зноў не сустрэць),*
*Агаркі зары дагарэлі,*
*А песні ў душы не згарэць...*
*Я першую песню калісьці*
*Чароўнай вясне падарыў,*
*Тады залацістае лісце*
*Цвіло ў пералівах зары.*
*Вячэрнія цені апалі,*
*Над рэчкай драмала сасна.*
*А там,*
*У бярозавых далях,*
*Блакіт асыпала вясна.*

*1927*

## Пытанне да творцы

# Якое значэнне ўкладваеце вы ў слова «класіка»?



**Уладзімір Карызна, паэт:**

— Класіка — гэта духоўная глеба, на ёй узрастае багаты ўраджай, без якога нічога няма — ні прагрэсу, ні шчасця, ні любові. Гэта Колас, Купала, Багдановіч... Лепшае, чым багатая беларуская зямля. Але творца не павінен да гэтага імкнуцца! Нельга лезці, паўзці змяёй «у класікі». Перш за ўсё трэба сумленна жыць, быць чалавекам. Працаваць трэба з поўнай аддачай. А яшчэ вельмі важна правільна выбраць дарогу. Можа, чалавек і не паэт, і не празаік, а кампазітар, ці інжынер, ці ўрач. Я лічу, што класікі могуць быць у любой прафесіі. Тут вельмі важная не колькасць, а якасць. А яшчэ чытач сам павінен адкрыць для сябе класіка, бо той часта застаецца непрыкметным. Класіка ствараецца чалавекам ранімым. Калі паэт не ранімы — то ён не паэт.

І ніхто з класікаў сам сябе ім не абвяшчаў. Прызнанне мусіць прыйсці ад іншых. І нават не ў часе справа, бо ў часе можна проста згубіцца. Тут мусіць прамаўляць справядлівасць.



**Пятро Жаўняровіч, дацэнт Інстытута журналістыкі БДУ, перакладчык:**

— Перадусім бачыцца патрэба ў размежаванні разумення класікі на даследчыцкім і абыходкавым узроўнях. Сусветная класіка — ад «Рамаяны» — факусіруе промні агульначалавечай думкі і накіроўвае іх на душу чытача. Ці далучае пэўны твор пэўнай эпохі свой праменьчык да гэтага фокуса — і ёсць вызначальны прыкметай яго «класічнасці». Колас з яго непарыўнай повяззю зямлі і чалавека, Гётэ з яго падсвядомым наканаваннем чалавеку быць адначасова і Мефістофелем, Рабле з яго саркастычнымі «выкрутасамі» адносна панавальнай (і, як выяўляецца, такой часовай) у грамадскай свядомасці ідэалогіі — тое, што не толькі канцэптуальна адлюстравала нацыянальную карціну свету пэўнага народа, зліло яе з Космасам, але і прайшло выпрабаванне Яго Вялікасцю Часам (менавіта з гэтай прычыны цяжка прыняць формулу «жывы класік»). Класіка пасля калыханкі, усмактанай з малаком маці і пакінутай на дне яшчэ дзіцячай душы, далучаецца да стварэння чалавечага ў чалавеку, спрычыняецца да пошуку ім Праўды (праз Дастаеўскага, Руставелі, Ажэшку ці Пецёфі). Але ўсе гэтыя развагі цьмянеюць перад глабальнымі цывілізацыйнымі зрухамі. Хто можа прадбачыць, якія ідэалы будуць панаваць праз стагоддзе?..



**Арлен Кашкурэвіч, мастак:**

— Калі твор не губляе значнасці хоць бы цягам стагоддзя, яго ўжо можна назваць класікай. Праблемы ў такім творы вырашаюцца на сусветным узроўні, маюць агульначалавечае значэнне. Калі казаць менавіта пра літаратуру: мастацкая мова, нягледзячы на змены стыляў цягам многіх гадоў, не павінна губляць актуальнасці. Аднак патрэбны час для таго, каб вызначыць, хто класік. Здараецца, што яшчэ пры жыцці аўтара некаторыя яго творы абвяшчаюць класічнымі, як бывае, прыкладам, з нашымі мастакамі. Але мне з такім меркаваннем цяжка пагадзіцца. А вось з паэтаў назваў бы Барадуліна. Яго паэзія настолькі высокага кшталту, што яе ўжо цяпер можна назваць класічнай.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Цяпер і на Кубе

## НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІКА XXII МІЖНАРОДНАГА КНІЖНАГА КІРМАШУ Ў ГАВАНЕ

XII Міжнародны кніжны кірмаш урачыста адкрыўся 14 лютага ў Гаване ў пабудаванай у 2-й палове XVIII стагоддзя крэпасці Сан-Карлас-дэ-ла-Кабанья. 40 краін-удзельніц. Агульная плошча — 11040 м².

**Ліліяна АНЦУХ,**
**фота аўтара**

Арганізаваны Універсітэтам Гаваны кірмаш вядзе сваю гісторыю з 1982 года, з'яўляючыся адным з найбуйнейшых кніжных кірмашоў у свеце і самай важнай падзеяй у кнігавыдавецтве Лацінскай Амерыкі. З самага пачатку задуманы як форум для дыялогу паміж літаратарамі і чытачамі, ён збірае больш як 2 млн. чалавек.

Цікава, што да канца XX стагоддзя кірмашы праходзілі раз у два гады і мелі адметную тэму, напрыклад: «Навукова-тэхнічная літаратура», «Медыцына на службе ў чалавецтва», а з 2000-га адбываюцца штогод у гонар якой-небудзь краіны альбо арганізацыі. У 2010 годзе ганаровым госцем была Расія.

Сёлета ганаровым госцем кірмашу, прысвечанага 160-годдзю з дня нараджэння Хасэ Марці, а таксама пісьменнікам Даніэлю Чаварыя і Пэдра Пабла Радрыгесу, стала Ангола — першая афрыканская краіна-ўдзельніца.

Дэлегацыя з Казахстана і наша прыехалі ўпершыню.

Дэлегацыю Беларусі ўзначальваў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. У склад яе ўвайшлі таксама Уладзіслаў Мачульскі, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура», і я, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці».

Першае, што мы паспяшаліся зрабіць, як толькі прыляцелі, — гэта наладзіць экспазіцыю на адведзеных нам 6 $м^2$ плошчы ў крэпасці «Сан-Карлас-дэ-ла-Кабанья». На паліцы паставілі кнігі беларускіх аўтараў, альбомы па мастацтве, сувеніры з нацыянальнай сімволікай. І наведвальнікі не прымусілі сябе чакаць. Разам з супрацоўнікамі пасольства Беларусі і непасрэдна паслом Уладзімірам Астапенкам нам удалося «адкрыцца» даволі аператыўна. Дабаўлю, што ўвесь час мы адчувалі тую падтрымку, якую яшчэ ў Мінску аказалі нам супрацоўнікі Пасольства і Пасол Рэспублікі Куба ў Рэспубліцы Беларусь Альфрэда Ньевес Партуонда, рыхтуючы першы візіт беларускай дэлегацыі пісьменнікаў і выдаўцоў. Акрамя мэтанакіраванай працы па ўзгадненні і каардынацыі сустрэч на кубінскай зямлі мы атрымалі шмат карысных парад. Дарэчы, парадаваліся і за калег-расіян. Прыехаўшы вялікай дэлегацыяй ужо ў чацвёрты раз, яны адчувалі сябе вельмі ўпэўнена — на экспазіцыі штодня было шматлюдна, праводзіліся прэзентацыі; завітаў падчас афіцыйнай паездкі па краіне прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў.



Наладжваем экспазіцыю на кірмашы.
Злева направа: Л. Анцух, Анабэль (Гаванскі ўніверсітэт), М. Чаргінец, Пасол Рэспублікі Беларусь У. Астапенка, перакладчык Марыя Лола.

На першай падрыхтаванай намі прэзентацыі з чытачамі сустрэўся Мікалай Чаргінец.

На наступны дзень адбылася вельмі знакавая падзея: падчас сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў і артыстаў Кубы была падпісана Дамова паміж двума саюзамі, якая прадугледжвае развіццё больш цесных сувязей, абмен кнігамі і дэлегацыямі, двухмоўныя пераклады твораў кубінцаў і беларусаў. Запомнілася сустрэча з раднёй «кубінскай пяцёркі» (незаконна асуджаныя героі Кубы).

Безумоўна, найбольш запамінальнай асабіста для мяне стала сустрэча з кіраўнікамі буйных выдавецтваў Кубы. Сярод іх можна выдзеліць «Arte y Literatura» («Мастацтва і літаратура»), «Nuevo Milenio» («Новае тысячагоддзе»), якое выдае кнігі па сацыяльных і іншых галінах навукі, «Gente Nueva» («Новыя людзі») — найбуйнейшае кубінскае выдавецтва, якое спецыялізуецца на выпуску мастацкай літаратуры для дзяцей і моладзі, і «Agencia Literaria Latinoamericana» («Лацінаамерыканскае літаратурнае Агенцтва»).

Папярэдне мы чулі, што на Кубе існуюць толькі дзяржаўныя выдавецтвы і ў няпросты для краіны час падтрымка «зверху» не надта моцная.

Уладзіслаў Мачульскі распавёў пра нашы дзяржаўныя выдавецтвы, кірункі іх дзейнасці, асабліва ўвагу звярнуўшы на падтрымку з боку дзяржавы.

Мая задача — распавесці пра прыватныя выдавецтвы.

Абапіраючыся на 20-гадовы вопыт выдавецтва «Чатыры чвэрці», я даволі падрабязна расказала, як працуюць выдавецкія кампаніі, акцэнтуючы ўвагу слухачоў на тым, што найбольш паспяховыя тыя, якія сваёй задачай ставяць выданне патрэбных грамадству кніг, а не проста атрыманне прыбытку. Працуючы з улікам дзяржаўных інтарэсаў, яны маюць магчымасць браць удзел нават у распрацоўцы законапраектаў для галіны, конкурсах, прадстаўляць сваю прадукцыю на нацыянальных выстаўках у розных краінах свету. Было зразумела, што кубінцы зацікаўлены ў супрацоўніцтве, асабліва па перакладах. Стрымліваючы фактар толькі адзін — фінансавы.



На тэрыторыі крэпасці Сан-Карлас-дэ-ла-Кабанья.

Пасля я размаўляла з іншымі ўдзельнікамі кірмашу — і кубінцамі, і афрыканцамі — пра нашу літаратуру, называла імёны Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Не ведаюць яны беларускую кнігу, ды і сама наша краіна — загадкавая для іх.

У крамах абсалютна не ўразілі кнігі — шэрыя брашуры на дрэннай паперы. Крыху здзівіў мноствам калекцыйных выданняў кніжны рынак на адной з пяці самых вялікіх плошчаў у старой Гаване. Затое кубінцы з цікавасцю разглядалі нашы выданні — па іх мерках, шыкоўныя.

Канечне, не было шмат часу на размовы. Аднак нават выпадковыя кантакты, мімалётныя назіранні давалі магчымасць адчуць, што не самыя лёгкія часы перажываюць кубінцы. У старой Гаване многія старажытныя палацы «ледзь дыхаюць», у крамах амаль пустыя паліцы, асноўныя прадукты — па картках.

І ўсё ж якая яна прыгожая, гэтая старая Гавана! Здавалася, што ўсімі сваімі вуліцамі яна спускаецца да акіяна, а ён велічны і магутны. Можа, гэта ад яго набіраюцца мужнасці і цярпення кубінцы, а можа, ад зыркага спякотнага сонца, што ўвесь час над галавой.

Мы зайшлі ў кафэ, дзе любіў бываць Хэмінгуэй. Здаецца, нават атмасфера тых гадоў захавалася. На першым паверсе дзіўная карціна: ля бара людзі, стоячы вельмі шчыльна адзін ля аднаго, танчылі сальсу. На другім і трэцім паверсе — сталы, можна выпіць, паслухаць музыку. Сцены — у аўтографах пад самую столь, і мы доўга шукалі месца, каб пакінуць свой. А яшчэ — шмат фотаздымкаў і з часоў Хэмінгуэя, і сучасных. Калі надышоў час вяртання на радзіму, было сумна: не хапіла часу на многія рэчы, шмат пра што не даведаліся, не пабачылі. Суцяшала, што засталіся кантакты, дамовы «трымаць курс» на збліжэнне, намеры літаратараў знаёміцца і «сябраваць краінамі». А сонца мы везлі з Кубы на Беларусь у сваіх сэрцах.

І яшчэ... «Свята, якое заўжды з табой» — гэта пісаў Хэмінгуэй пра Парыж. Здаецца, я буду доўга гаварыць так пра вандроўку на Востраў Свабоды — на свята кнігі.

***Мінск — Гавана — Мінск***

# На вышэйшым узроўні

**Алеся БАЦЮСЬ**

Атрымаць пашпарт напярэдадні Дня канстытуцыі, ва ўрачыстай абстаноўцы ды ў вельмі знакавым месцы — у Савеце Рэспублікі — асабліва ганарова. Выдатнікаў вучобы, пераможцаў творчых конкурсаў, валанцёраў і спартсменаў, даследчыкаў і ўдзельнікаў навукова-практычных канферэнцый з атрыманнем першага пашпарта віншаваў старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Анатоль Рубінаў.

Патрыятычная акцыя «Мы — грамадзяне Беларусі» па ўручэнні пашпартоў ладзіцца Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі дзявяты год. Праходзіць яна не толькі ў сталіцы, але ва ўсіх куточках краіны. Праўда, на такім высокім узроўні, як сёлета, — упершыню.

Разам з пашпартамі юныя грамадзяне звычайна атрымліваюць і невялікія падарункі. Гэтым разам — флэшкі з Дзяржаўным гімнам Беларусі і інфармацыяй пра БРСМ.

Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю выбітнага мастака Барыса АРАКЧЭЕВА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

## Быхаў-2013

# Помнікам — жыць!

Актуальныя пытанні захавання і адраджэння (рэстаўрацыі) аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі абмеркаваны на прэс-канферэнцыі, што адбылася ў сталічным Доме прэсы. У ёй узялі ўдзел начальнік упраўлення Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі і дырэктар Быхаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея Сяргей Жыжыян.

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Значнае месца ў выступленнях гасцей адводзілася лёсу Быхаўскага замка, рэканструкцыя якога ўключана ў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі» на 2012 — 2018 гады. У канцы мінулай восені пачалося дэтальнае абследаванне яго фрагментаў для падрыхтоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі. Адкрыты дабрачынны рахунак, на які паступіла каля 50 мільёнаў рублёў. Гэтыя сродкі дапамогуць паскорыць працэс рэстаўрацыі аб'екта.

Лёс замка незайздросны. Ён існаваў у Старым Быхаве з XVI стагоддзя, меў драўляна-земляныя ўмацаванні: вал, сцены ў выглядзе агароджы, вежы і ўязныя вароты. Караль Сігізмунд Аўгуст падарыў яго Я. Хадкевічу, «графу на Быхаве, Шклове і Мышы». Гетман Вялікага Княства Літоўскага Ян Караль Хадкевіч у 1590 — 1619 гадах арганізаваў маштабныя работы па ўмацаванні горада: быў пабудаваны новы каменны замак, выкапаны равы, умацаваны сцены, што зрабіла Быхаў адной з наймацнейшых цытадэлей ВКЛ.

Сапегі значна перабудавалі замак: ён займаў участак берага Дняпра памерам 77х100 м. Тут былі палац, жылыя і гаспадарчыя каменныя будынкі, тры васьмігранныя двух'ярусныя каменныя вежы і ўязная вежа з чарапічным купалам, увянчаная металічным флюгерам з гербам уладальнікаў горада. Двухстворкавыя высокія вароты галоўнай вежы былі дадаткова ўмацаваны рашоткамі і сістэмай жалезных запораў. Да ўязной вежы праз роў вёў драўляны пад'ёмны мост.

На жаль, гэтая прыгажосць да нашых дзён не захавалася.

Замак выкарыстоўвалі як турму, армейскія казармы, яўрэйскае гета, ваенныя склады, мэблевую фабрыку. А ў пачатку бягучага стагоддзя пажар знішчыў усе былыя ўпрыгожванні і архітэктурныя аздабленні.

Сёння Быхаў актыўна рыхтуецца да Дня беларускага пісьменства, які пройдзе тут 1 верасня. Канечне, пра поўную рэстаўрацыю гістарычнага помніка культуры не можа быць гаворкі, хаця сродкі выдзелены немалыя: 90 мільёнаў — з рэспубліканскага, 5 мільярдаў — з абласнога і 1 мільярд рублёў з раённага бюджэтаў. Згодна з папярэднімі разлікамі, гэтай сумы хопіць толькі на аднаўленне вежаў, кансервацыю фрагментаў і добраўпарадкаванне прылягаючай тэрыторыі.

Хочацца спадзявацца, што ўнукі сённяшніх маладых быхаўчан усё ж змогуць убачыць замак такім, якім ён быў чатыры стагоддзі таму.

**Газета «Літаратура і мастацтва» — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

Арт-лінія

# Першая з першых

Філіял Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей I з'езда РСДРП» запрашае на выстаўку асабістых рэчаў і фотаздымкаў Ларысы Александроўскай — беларускай опернай спявачкі, грамадскай дзячкі, першай у рэспубліцы народнай артысткі СССР (1940), першай жанчыны-рэжысёра оперы.

**Дзіяна КАРОЛЬ, фота аўтара**

— Ларыса Александроўская па жыцці імкнулася быць першай, першай і была, — распавядае загадчык філіяла Сяргей Рэчкін. —Тут можна пабачыць нешматлікія, але ўнікальныя экспанаты з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея: знакамітыя кастаньеты Александроўскай, якія яна выкарыстоўвала для ролі Кармэн, праграмы канцэртаў, прадметы гардэробу. Мы ўзялі за мэту зрабіць маленькую імправізаваную грымёрку, бо без яе немагчыма ўявіць жыццё ніводнай актрысы. Дадзеная экспазіцыя прадстаўлена ў рамках выставачнага праекта «Назаўсёды» — выстаўкі савецкага плаката. Мы палічылі правільным упісаць Л. Александроўскую ў гэты інтэр'ер, эпоху, бо спявачка — яе неад'емная частка. Выстаўка таксама з'яўляецца складнікам цыкла «Першыя». Мы хочам пазнаёміць наведвальнікаў з людзьмі, а таксама праектамі, якія маюць прыстаўку «першы»: з першым міністрам замежных спраў краіны, першым касманаўтам Беларусі, першай этнаграфічнай экспедыцыяй і інш. Я не буду анансаваць усе планы, але на працягу года мы пакажам шмат цікавых экспазіцый.



*Знакамітыя кастаньеты Л. Александроўскай.*

Сапраўды, без асобы Л. Александроўскай складана ўявіць сучасную беларускую оперу. Ураджэнка Мінска, яна мела выдатныя вакальныя дадзеныя, як спявачка пачала выступаць з 1920 года ў трупе Галоўпалітпрасвета Заходняга фронту. Музычную адукацыю атрымала ў Белмузтэхнікуме, вучылася ў Дзяржаўнай студыі оперы і балета ў Мінску, з 1933 года стала актрысай Беларускага тэатра оперы і балета ў Мінску. Падчас Другой сусветнай вайны Л. Александроўская выступала з канцэртамі на франтах, у шпіталях, партызанскіх атрадах, увесь Савецкі Саюз абляцела відэахроніка са спявачкай, якая пад грукат кананады выконвала «Перапёлачку» на танку. З 1951 года Л. Александроўская з'яўлялася галоўным рэжысёрам Беларускага тэтра оперы і балета, ініцыятарам стварэння і нязменным старшынёй Беларускага тэатральнага таварыства.

— Тэатр памятае сваю заснавальніцу і ганарыцца ёй, — зазначыў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц. — Сёлета тэатр адзначыць сваё 80-годдзе. Да юбілею прымеркавана шмат творчых праектаў, напрыклад, выданне энцыклапедыі Вялікага тэатра Беларусі, у якой будзе прадстаўлена і Л. Александроўская. Міністэрства сувязі і інфарматызацыі рыхтуе канверт і юбілейную марку, Нацыянальны банк — юбілейную срэбную манету. Таксама мы плануем прэм'еру нацыянальнага балета «Князь Вітаўт, ці Паляванне на зубра» (рабочая назва), музыку да якога напісаў В. Кузняцоў, балетмайстрам выступіць мастацкі кіраўнік тэатра народны артыст Ю. Траян. Шмат матэрыялаў пра жыццё і творчасць Л. Александроўскай ёсць у архіве тэатра, у Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнага і музычнага мастацтва Рэспублікі Беларусь, не так даўно выйшла кніга А. Ладыгінай «Ларыса Пампееўна Александроўская. Дакументальна-тэатральны раман», прысвечаная жыццю і творчасці спявачкі. Аднак каб паспраўднаму адчуць, што яе дух прысутнічае ў тэатры, прыходзьце ў нашу Камерную залу імя Л. П. Александроўскай, дзе яна спявала, кіравала творчым працэсам.

Літабсягі

# Купідон чакае пераможцаў



**Уладзімір ГОРЫНЬ**

Сёмы год запар аб'яўляецца рэспубліканскі конкурс на лепшы літаратурны твор. Заснавальнікі — Саюз пісьменнікаў Беларусі, міністэрствы інфармацыі, культуры і адукацыі Беларусі, а таксама Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт.

Канчатковае рашэнне наконт пераможцаў прымае журы, аднак перад гэтым дасланыя творы разглядаюцца на саветах Мінскага гарадского і абласных аддзяленняў СПБ, а таксама на секцыях па жанрах. Творы праходзяць па наступных намінацыях: «Паэзія», «Проза», «Дзіцячая літаратура», «Драматургія», «Літаратурная крытыка і публіцыстыка», «Краязнаўчая літаратура», «Пераклад», «Сатыра і гумар», «Песенны жанр». У першых трох прадугледжаны тры прызавыя месцы, у астатніх — толькі па адным. Пераможцы акрамя грашовай прэміі атрымліваюць знак-зімвал «Залаты купідон». Чакаюць пісьменнікаў і заахвочвальныя дыпломы.

Сярод леташніх пераможцаў конкурсу — паэт Алег Салтук, празаік Мікалай Ільінскі, драматург Фёдар Палачанін; у намінацыі «Дзіцячая літаратура» заняў першае месца Мікола Маляўка, а Зіновій Прыгодзіч перамог з кнігай «Постаці» ў намінацыі «Крытыка і літаратуразнаўства». Лепшае краязнаўчае выданне — у Анатоля Статкевіча-Чабаганава, аўтара летапісу беларускіх родаў «Я — сын ваш», а лепшым перакладчыкам стаў Уладзімір Скарынкін — ён пераклаў на беларускую мову творы Дантэ Аліг'еры і Францэска Петраркі. У песенным жанры перамог Іван Юркін. Дарэчы, дыпломам атрымаў і выканаўца яго патрыятычных песень — Анатоль Ярмоленка.

Лепш за ўсё дасылаць творы ў абласныя аддзяленні СПБ альбо адразу ў Дом літаратара ў Мінску, што па адрасе Фрунзэ, 5. Конкурс адкрыты, а гэта значыць, што ў ім могуць удзельнічаць усе, а не толькі сябры СПБ. Аднак сёлета ўнесена вельмі значная папраўка: прэмію нельга атрымаць двойчы. Былі выпадкі, калі адзін і той жа чалавек атрымліваў прэмію ў розных намінацыях або займаў прызавыя месцы ў адной намінацыі, але ў розныя гады. «Гэтак будзе больш справядліва. Інакш атрымаецца замкнёнае кола», — тлумачыць першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў.

Вынікі конкурсу будуць падведзеныя летам: прыкладна ў канцы ліпеня плануецца правесці пасяджэнне аргкамітэта. Па традыцыі пераможцаў узнагародзяць на Свяце беларускага пісьменства.

**Каляндар літаратурных дат і падзей**

**Сакавік**

**15 сакавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння Галіны Мікалаеўны Малажай (1938 — 2005), мовазнаўца, членакарэспандэнта Нацыянальнай акадэміі адукацыі Беларусі.

**17 сакавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння Ізі (Іcака Давыдавіча) Харыка (1898 — 1937), яўрэйскага паэта, члена-карэспандэнта НАН Беларусі.

**18 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Паўлюка (Паўла Кузьміча) Пранузы (1918 — 2007), паэта.

**18 сакавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Алены Іванаўны Яновіч (1933), мовазнаўца.

**20 сакавіка** — 60 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Пятровіча Бутрамеева (1953), пісьменніка, драматурга.

**23 сакавіка** — 65 гадоў з дня нараджэння Генадзя Пятровіча Пашкова (1948), паэта, перакладчыка, публіцыста, члена-карэспандэнта Міжнароднай Славянскай Акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры.

**25 сакавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Львовіча Механа (Няхамкіна; 1928), пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986).

Повязі

# З Мінска — у Маскву

Пабачыць лепшыя беларускія кнігі, выдадзеныя цягам мінулага і бягучага гадоў, можна ў Маскве на 16-й Нацыянальнай выстаўцы-кірмашы «Кнігі Расіі», што праходзіць з 13 па 17 сакавіка ва Усерасійскім выставачным цэнтры.

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

На калектыўным стэндзе нашай краіны — прадукцыя вядучых выдавецтваў: «Беларусь», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», «Вышэйшая школа», «Народная асвета», «Мастацкая літаратура», «Беларуская навука», «Аверсэв», «Пачатковая школа», «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа» і РУП «Белкартаграфія».

Выдавецкі дом «Звязда» прапануе ўвазе гасцей дзве вельмі цікавыя прэзентацыі. Па-першае, гэта фактычна тэатралізаванае прадстаўленне дзіцячай кнігі Наталлі Ігнаценкі «Казачныя падарожжы з прыгодамі». Знаёмства з кнігай дапоўняць інсталяцыі, зробленыя аўтаркай. Другая прэзентацыя — першая ластаўка з серыі «Сугучча сэрцаў», творчага праекта Выдавецкага дома «Звязда» і міністэрства інфармацыі Беларусі, — кнігу «З думай пра Радзіму». У выданні змешчаны паэтычныя і празаічныя творы сучасных беларускіх і расійскіх аўтараў.









Яшчэ адзін праект, які не можа застацца па-за ўвагай наведвальнікаў, належыць выдавецтву «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», а таксама Дэпартаменту сродкаў масавых камунікацый і рэкламы горада Масквы. Гэта кніга-альбом «Беларусы Масквы. XVII ст.», што распавядае пра ўнёсак беларускіх майстроў у культуру, найперш архітэктуру, расійскай сталіцы.

Абрысы

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства абароны Беларусі падрыхтавалі дыск «Служым Айчыне», першы выпуск якога быў прымеркаваны да 95-годдзя беларускай арміі. Аўтары праекта — Андрэй Гулякевіч, Уладзімір Варапаеў, Мікалай Чаргінец і Іван Юркін. «Пад адной вокладкай» змешчаны два дыскі. На першым — пятнаццаць патрыятычных песень на вершы беларускіх паэтаў. На другім — дванаццаць аўтараў, сярод якіх М. Мятліцкі, Г. Пашкоў, А. Сульянаў, У. Скарынкін, М. Пазнякоў, В. Праўдзін, Н. Гальпяровіч і іншыя, чытаюць свае творы.

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь яшчэ некалькі дзён будзе працаваць выстаўка «Салон-атэльэ пачатку ХХ стагоддзя». Пачатак мінулага стагоддзя адзначыўся роcквітам дамоў моды, атэльэ, ювелірных і капялюшных майстэрань. Жанчына той эпохі, якую яшчэ не кранула эмансіпацыя, больш была падобная да цудоўнай кветкі, экзатычнай птушкі. Яна не хадзіла па зямлі, яна лунала! Таму асноўная ідэя жаночага вобраза — бязважкасць, лёгкасць і эфемернасць. Зазірнуць у салон пачатку ХХ ст. прапанавалі супрацоўнікі гістарычнага музея. На выстаўцы прадстаўлены сукенкі, элементы касцюма, аксесуары, прадметы інтэр'ера.

Зборнік успамінаў пра народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменку плануецца выдаць у межах праграмы па ўвекавечанні памяці творцы. На сённяшні дзень камісіяй па творчай спадчыне Івана Навуменкі збіраюцца і апрацоўваюцца матэрыялы. Каб найбольш поўна і рознабакова прадставіць асобу творцы, камісія звяртаецца з просьбай да ўсіх, хто ведаў Івана Якаўлевіча, дасылаць свае допісы ў Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі 17 сакавіка запрашае на тэатральныя замалёўкі «Французская вясна» — вынік франкабеларускай творчасці, увасоблены ў эцюдах, сцэнах, скетчах і вакальных нумарах. Канцэрт створаны пры супрацоўніцтве Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Театро», французскай тэатральнай асацыяцыі «Demain le printemps», Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і кафедры акцёрскага майстэрства Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Мастацкі кіраўнік — Л. Манакова.

# Гульня святлаценяў

Беларускую літаратуру 20 — 30-х гадоў дзякуючы багатаму плёну навукоўцаў ужо не назавеш белаю плямай. І тым не менш шырокаму колу чытачоў яна можа ўяўляцца змрочным дэтэктывам, разгадкі якога абяцае гулкае рэха архіваў. Занадта працяглы час многія імёны бязвінна рэпрэсіраваных былі выкрасленыя з гісторыі, занадта асцярожным было напачатку іх вяртанне.

**Алена КАРП,**
**фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва**

Што датычыць Тодара Кляшторнага, расстралянага 30 кастрычніка 1937 года, то яго імя ўратавалі ад занядбання не толькі бясспрэчны талент, але і цалкам рэальныя намаганні дачок, Тадзіяны і Маі Кляшторных. Так, у друку можна знайсці іх успаміны пра бацьку, непадцэнзурная кніга выбранага «Сляды дарог» выйшла пры шчырым спрыянні Маі Кляшторнай, дзякуючы Тадзіяне Тодараўне памяць пра паэта ўвекавечана на яго роднай зямлі, на Лепельшчыне.

Сёння, гаворачы пра Кляшторнага з нагоды 110-годдзя, мы не станем заглыбляцца ў яго жыццяпіс, але паспрабуем акрэсліць мастацкі свет, які ён выбудоўваў і які быў зруйнаваны, пахаваны толькі таму, што не адпавядаў чужым уяўленням, дэкрэтам і пастановам. Наогул, той скрутны, ліхі час не даваў чалавеку права на індывідуальны свет: «единица — ноль...»

Аднак і ў самае змрочнае ліхалецце нараджаюцца паэты, прыходзяць, нібы зямныя анёлы. Прынамсі, Максім Лужанін так адгукаўся пра свайго паплечніка Тодара Кляшторнага: «Жартавалі, што ягоны, некалькі адлучаны ад рэчаіснасці, дакладней — выцураны выраз вачэй выклікае на ўяўленні постаць раскрыжаванага Езуска — такія крыжы стаўлялі некалі ў вясковых капліччках і касцельчыках». І ён жа: «Чамусьці ўсе знаёмыя называлі яго Тодзік, памяншальна. І ўсміхаліся. І ў яго самога на твары гасціў ласкавы выраз... Ягоная ўсмешка хіліла да сябе, настройвала на добразычлівасць, абяззбройваючы тых, хто гневаўся ці гатоў быў угнявацца».

І вось гэты далікатны, сарамліва-сціплы юнак ішоў у першых шэрагах беларускага авангарду. Яго імя найбольш трывала звязваюць з імажынізмам, аднак трэба падкрэсліць, што і іншыя «ізмы» ім былі засвоеныя, прыўлашчаныя і адаптаваныя да беларускай глебы, да роднай традыцыі. Найпершымі арыенцірамі ў творчасці для Тодара Кляшторнага былі Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча і, вядома ж, Сяргей Ясенін. Ясенін наогул не прайшоў бясследна для нашага краснага пісьменства. Паводле эмацыянальнага тону з ім супадаў Анатоль Вольны — яшчэ адзін прадстаўнік «расстралянай літаратуры», захапляўся рускім паэтам шасцідзясятнік Віктар Стрыжак. І калі для апошняга «ясенiншчына» азначала няўтульнае, але п'янкое і — у тагачасным літаратурным кантэксце — ганаровае як знак якасці дысідэнцтва, то для Вольнага і Кляшторнага была прычынай цкавання ў друку, абвінавачвання ў «ідэалагічнай нясталасці».

Сёння радкі кшталту: «Як сумна, любая, дакоры / З твайго кілішка дапіваць...», «З вішнёвых хмар на ледзяной гітары / Заплакала зара па сонечнай вясне...» мы чытаем выключна як паэзію, хіба адзначым, што «кілішкі» і «заледзянеласць» — найбольш частыя вобразы Тодара Кляшторнага. Вульгарная ж крытыка бачыла ў іх выклік, выбух, «мяшчанства» і «багемнасць». Зрэшты, раздражняла яе не толькі імажынісцкая практыка.

Тодар Кляшторны быў удзельнікам «Узвышша» — літаб'яднання з не надта спажыўнай для пануючай ідэалогіі праграмай. «Само ўтварэнне новага літаратурна-мастацкага згуртавання азначала сабою пачатак новага этапу ў развіцці беларускай паслякастрычнікавай літаратуры. Яно азначала пераход ад агульных дэкларацый, агітак, адозваў, выступленняў і падобнага ў паласу творча-канструкцыйную», — было заяўлена ў друкаваным органе «Узвышша» — аднайменным часопісе. Антон Адамовіч сведчыць, што «...яшчэ ў канцы 1927 году «Ўзвышша» вуснамі свайго фактычнага лідара Дубоўкі папярэдзіла, што прымае кіраўніцтва камуністычнай партыяй толькі «ў магчымых для сябе кірунку й формах». Гэтая заява, выдрукаваная на беларускай старонцы маскоўскай газеты «Гудок» (№ 114 за 1927 год), літаральна ашаламіла бальшавікоў...» Эстэтычнай і філасофскай асновай згуртавання стаў аквітызм (ад акавіта — жывая вада) — мастацкае афармленне новага жыццеадчування, вольнае ад палітызаванасці. «Узвышша» імкнулася да новых літаратурных формаў, якія ў сваім адзінстве склалі б стыль эпохі.

Уласную паэтычную праграму шукаў і Тодар Кляшторны.

*Маё багацце — песня творчай ліры,*
*Мне наканована у песні дагарэць.*

*Я кожнай хвоікі гоман адчуваю,*
*Я чую крокі нават туманоў,*
*Таму і злосць і крыўду прабачаю*
*У лёгкім тлуме творчых аганькоў.*



Літаратурнае аб'яднанне «Узвышша».
Першы рад: Я. Пушча, А. Бабарэка, У. Дубоўка, К. Чорны, З. Бядуля, К. Крапіва.
Другі рад: М. Лужанін, С. Дарожны, А. Адамовіч, Т. Кляшторны, У. Жылка, В. Шашалевіч, П. Глебка.
Канец 1920-х.

Тое, што сёння апашлілі — цяпер згарэць у паэзіі парываюцца і тыя, у чыіх вершах і блізка не знойдзеш агню, — у Кляшторнага яшчэ мае сэнс і нават становіцца жыццятворчасцю, горкім прароцтвам. Працытаваны ўрывак — роздум сам-насам, ціхая лірыка, а час патрабаваў гімнаў і агітак, час мог караць за неадпаведную інтанацыю. І паэт спрабуе зразумець гэтую вычварную логіку часу (хоць каб быць ухваленым і памілаваным, мусіў бы проста падначаліцца). І тут ужо пачынаць трэба не з творчых установак, а з асновы, з пытання: «Ці варта сёння быць паэтам?»

*Ці не страшэнная памылка —*
*У час вялікі будаўніцтва*
*На ліры лірніку пілікаць,*
*І з леры гэнае карміцца?*
*Чым апяваць пад плотам мяту,*
*Чым апяваць платы гнілыя,*
*Ці не карысней ля варштату*
*Аддаць душу сваю краіне?*

Верш датуецца 9 красавіка 1929 года. Да гэтага часу Кляшторны чуў ужо дастаткова абвінавачванняў ва ўпадніцтве, і яго пытанне, якое можа — і, відаць, мелася — быць прынята за працу над памылкамі, насамрэч ад роспачы, ад страху бессэнсоўнасці. «Душа за песню галасуе, / Развага гэтаму пярэчыць...» І зразумела, чаму пярэчыць, і не верыцца ў шчырасць заклiку: «Ну, памажэце ж разабрацца!» і ў паблажлівасць радкоў: «Ці варта лірніку пілікаць?» Паэт нібы прымярае на сябе чужы голас:

*Не можа сын свае эпохі*
*Пад небам вольнай Беларусі*
*Ісці у далі сцежкай вохкай,*
*Калі ад кожнага упарта*
*Эпоха сёння патрабуе:*
*Не пакідаць грамадскай варты,*
*Не пакідаць свае трыбуны.*

Але не вытрымлівае, не можа жыць з чужым голасам, з мовай перадавіц. «Мае гітары ледзяныя / Вартуе бусел у балоце. / Да іх я болей не вярнуся...» — запэўнівае Кляшторны. І нібыта ўсё правільна, схема бездакорная: прагрымець лозунгамі, вырачыся сваёй, так нялюбай сацрэалізму, паэтыкі («ледзяны гітарыст» — абразлівая мянушка Кляшторнага), але... Але не вартуюць жа тое, ад чаго назаўжды выракаюцца. Зноў жа — каб залагодзіць варожыя нападкі, дастаткова было б публічнага пакаяння, але паэт яшчэ і абвяшчае сваю праграму, ідучы следам за традыцыяй Францішка Багушэвіча («Эх, скручу я дудку! / Такое зайграю, / Што ўсім будзе чутка / Ад краю да краю!»), Максіма Багдановіча («Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш...»), яшчэ і задаецца нейкімі «пабочнымі» пытаннямі: «Ці творца творчаму гарэнню / Павінен даць і стыль эпохі?» і ўрэшце паядноўвае ўласную паэтычную дактрыну з платформай «Узвышша». Верш, які мог стаць шчытом, становіцца... не, не ахілесавай пятой, а сімвалам годнасці, вернасці сабе.

Аднак у гаворцы пра час і яго ўспрыманне паэтам хацелася б пазбегнуць аднабаковасці і паспешлівасці. «Ходзім мы пад месяцам высокім, / А яшчэ — пад ДПУ» — радкі, якія цытуюць часта і ахвотна, якія сведчаць, што Тодар Кляшторны такі зразумеў логіку свайго часу, зразумеў і не прыняў. Але ж была нейкая адлегласць паміж гэтым, ужо крылатым, выслоўем і натхнёным: «Маладосць у казачныя шлеі / Запрагае сонечныя дні...» Быў нейкі прамежак, у які паэт не мог працівіцца свайму часу, хаця б з той нагоды, што з рэвалюцыяй звязвалася надзея на адраджэнне. Нездарма ж, як зазначае адзін з самых аўтарытэтных даследчыкаў паэзіі XIX — першай трэці XX стст. Ірына Багдановіч, «...авангардызм «Узвышша» ў ідэйна-эстэтычным плане быў па сутнасці ў многім вяртаннем да традыцый нацыянальна-адраджэнскіх, рамантычных...» Тодар Кляшторны рады быў вітаць новы свет, і не яго віна, што ружовая зара пакрысе спахмурнела, а ледзяныя карункі з эстэцкага вобраза ператварыліся ў характарыстыку часу, сцюдзёнага і непрытульнага.

А напачатку яшчэ верылася, што новае «сёння» знішчыць аджыўшае «даўно», у якім Беларусь была паднявольным, прададзеным краем:

*І вось тут, дзе не рускую Русь*
*Прадавала панам Кацярына...*

Мы маглі б працытаваць і іншыя радкі: у Кляшторнага дастаткова гнеўных рэтраспекцый, але менавіта тут цэнзура, змяніўшы «дзе не рускую» на «прыдняпроўскую», выкрыла «ідэалагічную памылку». Клопатам паэта была менавіта Беларусь, сама па сабе. Такім чынам, нават традыцыйнае процiпастаўленне «старое — новае», якім жыла савецкая літаратура, у Кляшторнага выходзіла за цесныя ідэалагічныя рамкі.

*Мы ідзем не плятні апяваць,*
*Мы спяваем паэмы машынам...*

Заяўляючы так, паэт не хлусіў. Ён сапраўды вітаў тэхнічны прагрэс, бачыў у ім палёгку для сялянства, але неяк міжволі ў гімне стальному каню ўзнікалі і рыжы конік, і стары плот, і мята пры ім. Новае вынішчала, перамагала старое, але не ў душы і свядомасці паэта. У яго не атрымлівалася рэзкіх процiпастаўленняў. Ухвальныя, узнёслыя інтанацыі не ператваралі верш у збіты хваласпеў, апрабіраваная, праверaная тэма вырастала ў нешта зусім нечаканае. Так, у вершы «Вартавы», пачаўшы з калгаснага быту («Ля клеці / Ходзіць вартавы, / Вясну / Ад ворагаў вартуе...»), Кляшторны пераходзіць, прытым лагічна, падрыхтаваўшы чытача, да пейзажнай замалёўкі, яркай і сімвалічнай, да гімну пладнасці зямлі.

Нібы магутная плынь, талент Кляшторнага змываў, зносіў плаціны зададзеных, гатовых установак. Быт, такі звычайны і ўжо апрыкры, у яго станавіўся паэзіяй. Так, у вершы «Залатое вязьмо» абавязковыя атрыбуты часу, антураж не знішчаюць лірычнага настрою, наадварот, трапіўшы ў агульную плынь, згубіўшыся ў ёй, не замінаюць паэту падняцца да ўзроўню паэмы «Яна і я» Янкі Купалы, даць узор вытанчанай, адметнай (кляшторнаўскай) інтымнай лірыкі:

*Я не ведаю,*
*Жыў я ў гэтай начы,*
*Ці ў жыцця свайго*
*Водпуск узяўшы,*
*Я праносіў між зор*
*І зямлёю ключы*
*Найцудоўнае радасці нашай.*

Дзеля гэтага інтымнага, пачуццёвага свету сапраўды трэба было прыўздымацца над рэчаіснасцю, адпрошвацца ў зямнога жыцця, хуткасць якога ўсё павялічвалася. І тое, што спярша радавала, пачынала трывожыць. У гэтым паскораным тэмпе, у барацьбе старога і новага «старым» маглі быць не толькі рэчы, устоі, але і чалавечыя жыцці. Вельмі хутка яны зношваліся і абясцэньваліся. Рыжы конік саступіў стальному, чалавек саступіў машыне, жалезнай сіле, махавіку рэпрэсій.

*Пачуліся крыкі:*
*— Дарогу, стары!*
*— Хіба ты не бачыш машыны?!*
*А я адступіўся...*
*— А дзе ж той стары?*
*— Няма тут нікога старога...*
*Яшчэ азірнуўся...*
*І з гэтай пары*
*Забілася ў сэрцы трывога.*
*Эх, як незаўважна праносіцца час*
*У нашай працоўнай краіне.*

Зменлівасць, цякучасць часу («Нашы дні — пераліўныя хвалі...») была прадметам яго паэзіі. Пра гэта пісаў у рэцэнзіі на зборнік «Светацені» Адам Бабарэка: «“Светацені” па агульным ад іх уражанні — гэта задуменнае дзіванне зменлівасцю, якая пазнана паэтам у быцці як свайго роду абсалютны закон жыцця. Паэтыка пераходаў — тое, што зачароўвала паэта. Яна знаходзіць сваё выяўленне не толькі ў падзейнасці, адлюстраванні плыні часу, але і ў змене інтанацый. Так, у вершы «Мая любімая» знойдзем і нечакана гарэзлівы для 1920-х гг. гумар, і самаіронію, і амаль аўталагічны стыль, і перайманне фальклорнай традыцыі, прытым што твор уяўляе сабой даволі тужлівую рэтраспекцыю.

Асобна варта сказаць і пра імажынісцкую звышвобразнасць Кляшторнага. Калі мы параўнаем зборнікі выбранага 1970 і 2003 гадоў выдання, то знойдзем больш, чым дзесяць адрозненняў. Але пейзажныя замалёўкі («Раніца», «Зазімак») прынятыя па абодва бакі барыкад. І не дзіва. Яго вытанчаныя, выштукаваныя вобразы не рассыпаюцца, а ствараюць цэласны малюнак, які мы пазнаём і дзівімся незвычайнаму ракурсу (хоць, здаецца, сёння здзівіць паэзіяй складаней, чым калісьці):

*Зацвілі сярэбраныя росы*
*У кілішках выцвілых лістоў,*
*Запалілі зоры папяросы*
*Над буланай грывай тумаyоў.*

*Залатой мякінай лістападу*
*Сыпле клён над скронямі акон,*
*А ў галлі абветранага саду*
*Месяц сплёў паўтысячы карон.*

У гэтым артыкуле мы не згадалі этапную — не толькі для аўтара, а і для беларускай літаратуры ў цэлым — паэму «Калі асядае муць»: яна патрабуе асобнай грунтоўнай гаворкі. Талент Кляшторнага занадта багаты і аб'ёмны, каб можна было змясціць яго на адну газетную паласу. Гэтаксама і яго прагнае жыццё не змяшчалася ў прадыктаваныя межы, не хапіла яму гэтага нявялікага адрэзка — 1903 — 1937 гг.

# У віры прыгод

Спецыфіка раманаў Людмілы Рублеўскай («Золата забытых магіл», «Скокі смерці», «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію», «Сутарэнні Ромула») не ў апошнюю чаргу звязана са своеасаблівым выяўленнем катэгорый часу і прасторы. У творах суіснуюць розныя формы часу, найбольш істотныя з якіх — авантурна-прыгодніцкі і гістарычны.

**Ксенія КУШНАРОВА**

Абавязковым кампанентам авантурнага часу з'яўляецца выпадковасць. Так, неспадзяванае з'яўленне знаёмага з дзіўнай прапановай набыць каменную жабу задае рух сюжэтнаму дзеянню ў рамане «Золата забытых магіл», раптоўная сустрэча з аднакурснікам і былым мужам уцягвае Анэту («Скокі смерці») у вір дэтэктыўна-любоўных прыгод, нечаканая прапанова ўвасобіць у жыццё падзеі напісанага рамана штурхае гераіню «Сутарэнняў Ромула» на авантурныя ўчынкі, якія прыводзяць да кардынальных змен.

Сюжэты твораў пісьменніцы грунтуюцца на спляценні сучаснасці і мінулага. Гістарычны час мае адзнакі рамантычнай паэтыкі. У рамане «Сутарэнні Ромула» дзеянне адбываецца ў асноўным у двух часавых пластах: сучаснасці і пачатку XX стагоддзя. Арганізуючая роля ў творы належыць матыву сустрэчы герояў, які лагічна завяршаецца шалёным парывам, што кідае прадстаўнікоў варагуючых родаў у абдымкі адно да аднаго.

Няпростыя адносіны нашчадкаў Вяжэвічаў і Корб-Варановічаў, радаводы якіх, як пазней высвятляецца, паходзяць ад аднаго кораня, з'яўляюцца тым стрыжнем, на які «нанізваюцца» разнастайныя часткі тэксту, дзе згадваюцца прадстаўнікі абодвух родаў, шляхі якіх перакрыжоўваюцца ў розныя гістарычныя эпохі. Часта ў такіх эпізадычных згадках фігуруе вобраз падземнай царквы і звязаная з ім легенда пра двух братоў: Юрыя і Язэпа Корб-Варановічаў.

Авантурны час твора цесна знітаваны з суб'ектыўным часам персанажа, у якім разнастайныя прыгоды прапускаюцца праз прызму свядомасці Арсеніі — вобраз, што з'яўляецца дакладнай копіяй нязменнай галоўнай гераіні раманаў пісьменніцы. Ася Вяжэвіч атрымлівае ў спадчыну ад сваіх літаратурных папярэдніц цэлы набор складнікаў жаночага вобраза, сярод якіх — выхаванне ў чыста жаночай сям'і, у кожнай прадстаўніцы якой па розных прычынах не склалася асабістае жыццё.

Ася лічыць сябе непрыгожай, яе манера апранацца дэманструе жаданне адасобіцца ад знешняга свету і імкненне пазбавіцца ад увагі мужчын, да якіх дзяўчына мае спадчынны недавер. Непрыстасаванасць да побыту, грэблівае стаўленне да прыгатавання ежы, падтрымання парадку ў доме і г. д. таксама вандруе з твора ў твор, як і шляхецкае паходжанне гераіні, пра якое яна даведваецца ў фінале.

Згодна з канонамі авантурнага часу, адшукванню легендарнай царквы, дзе пахаваны старэйшы Корб-Варановіч, спрыяе выпадак: Арсенія літаральна правальваецца ў яе, спрабуючы збегчы ад мужчын, у пачуццях да якіх яна заблыталася.

Жорсткая сюжэтная зададзенасць твора не пакідае месца для падрабязнага стварэння каларыту эпох, што згадваюцца ў рамане; Л. Рублеўская спыняе ўвагу толькі на тых сацыяльна-гістарычных асаблівасцях, якія абумоўліваюць учынкі герояў ці тлумачаць іх душэўны стан.

Але ў параўнанні з папярэднімі раман «Сутарэнні Ромула» ўтрымлівае больш гістарычнай канкрэтыкі (асабліва ў апісанні рэчаіснасці 30-х гадоў мінулага стагоддзя). Знайшлі сваё месца ў творы і нешматлікія рэаліі сучаснага жыцця, якія вельмі выбарачна трапляюць у свядомасць гераіні і праз яе ўспрымание падаюцца чытачу.

Такім чынам, раманную творчасць пісьменніцы характарызуе паралельны паказ некалькіх часавых пластоў, цесна звязаных паміж сабой, «перазовы» мінулага і цяперашняга, адчуванне героямі непарыўнай сувязі з продкамі, якая часам суправаджаецца адчужанасцю ад рэалій сённяшняга дня, увага да спецыфічных топасаў: могілак, тэатральных куліс, разнастайных сутарэнняў. Часцей за ўсё дзеянне адбываецца на даволі абмежаванай прасторы, найперш у гарадскіх дэкарацыях, калі не на сталічных вуліцах, то ў правінцыі. Пры гэтым многія з выкарыстаных у раманах топасаў вырастаюць да памераў сімвалаў, якія ў розных тэкставых сітуацыях могуць прачытвацца па-рознаму.

Засяроджанасць на асобных дэталях, якія адыгрываюць значную ролю пры перадачы настрою таго ці іншага эпізоду твора, часам спалучаецца ў пісьменніцы з няўвагай да агульнага малюнка. У выніку чытач не атрымлівае цэласнага ўяўлення пра месца дзеяння, замест гэтага ён даведваецца пра пэўныя пачуцці і згадкі гераіні.

Цікавасць Л. Рублеўскай да пытанняў жыцця і смерці заканамерна прыводзіць яе герояў на могілкі, змрочная сімволіка якіх так ці інакш прысутнічае амаль ва ўсіх творах пісьменніцы. У рамане «Золата забытых магіл» дзеянне круціцца вакол помніка, прыжыццёва ўзведзенага Вінцэсем Рашчынскім, сімвалічнай загадкі-запавету для нашчадкаў. У «Скоках смерці» гераіня згадвае адмысловае выprабаванне — пацалункі на могілках, бо «прысмак смерці надае пацалункам асаблівую моц». У «Сутарэннях Ромула» могілкавая сімволіка выступае на фоне сутарэнняў і ўзбагачаецца адпаведнай семантыкай.

У творах Л. Рублеўскай прысутнічае таксама і даволі разнастайная тэатральная сімволіка. Асабліва разгорнута прадстаўлена яна ў «Скоках смерці». Сны галоўнай гераіні нагадваюць ёй кепскі фільм: «Танныя дэкарацыі. Танная рамантыка». Сядзіба Калыванава пераўтвараецца ў свядомасці гераіні ў дэкарацыю, на фоне якой разыгрываецца незвычайная дзея: «Дэкарацыі адметныя. Пусты дом, набіты шыкоўнымі рэчамі, — здавалася, патрасі яго, загрукае, як куфэрак, набіты косткамі». У «Гульні ў Альбарутэнію» персанажы падначальваюць жыццё ўмовам небяспечнай гульні. Спроба герояў рамана «Сутарэнні Ромула» падпарадкаваць сваё жыццё зададзенасці ўжо напісанага Скрынічам твора таксама нагадвае тэатральнае дзеянне.

Сюжэтная схема, якая выкарыстоўваецца ў раманах, пераходзіць з твора ў твор амаль без змен. Абавязковымі элементамі тут з'яўляюцца наяўнасць любоўнага трохкутніка, таямніца з мінулага, якая нібы выпадкова трапляе да галоўнай гераіні, звычайна непасрэдна перад ці адразу пасля чыёй-небудзь смерці. Важную ролю ў раскрыцці гістарычнай таямніцы адыгрываюць артэфакты (копія жабкі з помніка, старажытныя гадзіннікі, напаўлегендарная царква).

Падзеі мінулага не толькі праліваюць святло на з'яўленне таямніцы ў сучаснасці, але і валодаюць пэўнай аўтаномнасцю і таму ўспрымаюцца як раўнапраўнае сюжэтнае дзеянне. Хісткасць мяжы паміж мінулым і цяперашнім, зварот то да аднаго, то да другога часавага пласта знітоўвае іх так цесна, што падзеі твораў успрымаюцца не як адасобленыя дыстанцыяй, а як арганічнае, аб'яднанае адзінай плынню дзеянне, якое пачалося ў мінулым і атрымала лагічны працяг у сённяшняй рэчаіснасці. Пры гэтым асобныя ўчынкі, паводзіны герояў-сучаснікаў часам амаль дакладна паўтараюць аналагічныя дзеянні іх папярэднікаў.

Цеснае знітаванне часавых пластоў не толькі стварае нечаканыя сюжэтныя хады і надае займальнасці празаічным творам Л. Рублеўскай, але і дазваляе выказаць ідэю пра цыклічнасць часу, яго непазбежную паўтаральнасць. Сваімі творамі пісьменніца сведчыць, што розныя гістарычныя часы здольныя адчуваць узаемны ўплыў, а іншыя часавыя каардынаты не перашкаджаюць блізкім па духу людзям разумець адно аднаго.

У сваіх раманах Л. Рублеўская паказвае ўласцівыя сучаснаму чалавеку перакананні і манеру паводзін праз супастаўленне іх з учынкамі продкаў, такім чынам выяўляючы ўніверсальныя канстанты быцця. Сярод іх непарушная вернасць Радзіме, шанаванне продкаў і захаванне гістарычнай памяці, якая дазваляе зберагчы непаўторнае аблічча этнасу і дае права ганарыцца сваім народам.

# Акварэльныя малюнкі

Летась у выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» пабачыла свет новая кніга Уладзіміра Сцяпана «Адна капейка». У яе ўвайшлі навелы і творы без пэўнай жанравай маркіроўкі, якія пісаліся аўтарам на працягу 8 гадоў. Большасць з іх друкавалася на старонках перыядычных выданняў і ўжо вядома чытачу. Таму замест выбарачнага аналізу найбольш удалых «элементаў» зборніка паспрабуем даць ацэнку ўсёй кнізе, вылучыць тыя мастацкія сродкі, якія дапамаглі аўтару аб'яднаць невялікія і разнастайныя творы ў адзінае цэлае.

**Кацярына ГОЛЕЦ**

Слушна заўважае Лада Алейнік: «Сюжэты навел У. Сцяпана ўзрастаюць, як правіла, з аднаго лакальнага эпізоду, за якім урэшце расхінаюцца далягляды чалавечага быцця, дзіўныя і супярэчлівыя перыпетыі непрадказальнага лёсу». І менавіта гэты факт выяўляе пісьменніка як майстра навелы. Трэба сказаць, што мы маем справу менавіта з кнігай, а не шэрагам твораў. Безумоўна, тут важную ролю адыграла тэматыка. У шырокім сэнсе напісанае можа ўспрымацца як гімн дзяцінству, юнацтву, жыццю, Радзіме... Увогуле, любы з твораў гэтага зборніка перадае аўтарскі эгацэнтрызм: пісьменнік выбірае са сваёй памяці толькі тыя моманты, падзеі, здарэнні і тых людзей, якія ўразілі, змянілі светапогляд, закранулі ў першую чаргу яго асабіста. Цікавіць іншае: чаму прыватныя калізіі жыцця аднаго чалавека становяцца блізкімі і зразумелымі шырокаму колу людзей? Адказ можа палягаць у тым, што У. Сцяпан стварае абагуленыя, у некаторай ступені нават тыповыя вобразы. Сітуацыі могуць ужо больш і не паўтарыцца, а вось людзі, якіх вымалёўвае нам аўтар, сустракаюцца і будуць сустракацца заўсёды. Яскравы прыклад гэтаму — дзед Ладзімір з аповесці «Акварэльныя малюнкі. Дзед». Гэты вобраз увабраў у сябе ўсе рысы, якія толькі могуць быць уласцівыя селянінубеларусу. У большасці ёсць ці былі такія ж самыя дзядулі, якія забаўлялі, расказвалі казкі, адкрывалі свет, вучылі весці гаспадарку, падтрымлівалі ў цяжкі момант. Паказальны ў гэтым сэнсе абразок «Грошы»: «Зрэдку баба мая, а найчасцей дзед, на развітанне давалі мне грошы. Зусім малому — рубель, падлетку — тры, а потым і па дзесяць, і па дваццаць пяць... Дзед выходзіў і даваў мне грошы. "На гасцінцы, ад мяне з бабай. Толькі не згубі, пакладзі ў кішэнь і гузік зашпілі..."». Сапраўды, амаль кожны чуў такія словы ў свой адрас, і не адзін раз. Асабліва кранае пытанне, якое аўтар ставіць напрыканцы: «Цікава, а калі ў мяне з'явяцца ўнукі, то я буду як мой дзед?..» Па сутнасці пытанне больш шырокае: ці не перапыніцца традыцыя, ці захаваем мы тыя адметныя рысы, якія былі ўласцівыя нашым бабулям і дзядулям, ці не згубім сябе? Ды ці толькі традыцыі... «Дзед ведаў назвы ўсіх траў, птушак, кветак, звяроў, інструментаў, зорак, дарог і сцежак, мясцін у лесе і на балоце, на пожні... Шкадую, што няўважліва слухаў, што не запісваў, што не збярог...»

На маю думку, твор «Акварэльныя малюнкі. Дзед» самы моцны ў зборніку. (Дарэчы, падрабязная гаворка пра яго ўжо ішла на старонках «ЛіМа» ў № 3 ад 22 студзеня 2010-га). І нездарма ён завяршае кнігу. Цікава, што ў апавяданні «Мятлік белы. Ястраб шэры», якое напісана значна раней, чым вышэйназваны твор, мы ўжо сустракаемся з дзедам Ладзімірам і становімся сведкамі сітуацыі, якая будзе дубліравана аўтарам у абразку «Мяжа»: «... Не напісаў пра Лявона, нашага суседа, і пра тое, як ён пабіўся з нашым дзедам, а дакладней пабіў дзеда...» (Мятлік белы. Ястраб шэры). «За мяжу, за вузкі пасак зямлі пасварыліся дарослыя людзі. Перасталі размаўляць...» (Мяжа). Ці не сведчанне гэта таго, што «Мятлік белы. Ястраб шэры» з'яўляецца накідам да аповесці «Акварэльныя малюнкі. Дзед». Увогуле, гэтыя два творы самыя блізкія ў зборніку і па сваёй тэматыцы, і па будове, не кажучы ўжо пра супадзенне дзеючых асоб. Таксама да гэтага шэрагу, безумоўна, трэба дадаць нізку «Сто акварэльных малюнкаў. Бацька».

Вяртаючыся да мастацкіх сродкаў, нельга абмінуць увагай і той факт, што размова ў большасці твораў вядзецца ад першай асобы, што надае кнізе інтымнадаверлівы, у некаторых момантах нават спавядальны настрой. Ужо неадночы гаварылася пра талент У. Сцяпана як мастака (аўтар атрымаў грунтоўную мастацкую адукацыю). Гэта дапамагае патлумачыць тое, што вобразы і пейзажы, створаныя пісьменнікам, вельмі запамінальныя і дакладныя, нібыта карціны або фотаздымкі. Напэўна, адсюль у пісьменніка і такая выключная назіральнасць ды любоў да разнастайных дробязей.




Калі разважаць пра слабіны кнігі, то, на мой густ, адзінае такое месца — назва. Навела «Адна капейка» не горшая за іншыя, але ў якасці назвы гучыць неяк сціпла, не заклікае да чытання. Аднак гэта дробязі... Галоўнае, што, прачытаўшы кнігу, атрымліваеш такія пачуцці і ўражанні, якія прымушаюць блытаць прачытанае і асабістае, падштурхоўваюць да развагі пра сваё жыццё, у некаторай ступені нават змяняюць светапогляд...

Генадзь ІВАНОЎ



# Радзімы мілай кожная адметнасць

У шырокай, чыстай ды звонкай плыні шматвяковай рускай паэзіі багата самародкаў, яркіх залацінак. Яны і нам асвятляюць душу славянскай роднасцю. Як, напрыклад, радкі сучаснага паэта Генадзя Іванова. Род яго паходзіць ад сялян Цвярской губерні. Першыя ўяўленні пра жыццё будучы паэт атрымаў дзякуючы бабулі Еўдакіі, шчырай верніцы, якая быць рэлігійным асабліва не вымушала, але пасеяла ў дзіцячай душы пераканаўчае адчуванне: Бог прыкмячае ўсё, ад яго нічога не схаваеш, не ўтоіш. Генадзь Іваноў — аўтар каля дзясятка паэтычных кніг. Сярод іх — «На высокім узгорку», «Любоўю жывём», «Раніца памяці», «Чырвоны бераг», «Берагі», «Доўгі дзень», «Крыжы і ластаўкі». Усім ім уласцівыя лірычная адкрытасць, мастацкая навізна, шырокі тэматычны дыяпазон. Спадзяюся, чытачам «ЛіМа» будзе цікава пазнаёміцца з вершамі Генадзя Іванова ў перакладзе паэта Паўла Саковіча.

**Генадзь ПАШКОЎ**

## Астрэчына

*Цякла рака,*
*схіляла ціхай плынню*
*Суцвіцці лотаці...*
*І я нырнуў,*
*Паплыў над каранямі,*
*доннай стынню,*
*Дзе недзе сом*
*загушканы заснуў.*
*На беразе ў траве*

*стаялі козы,*
*Дзесь навальніца*
*вухкала савой.*
*Мільгалі побач*
*матылі, стракозы,*
*І вочы ў вочы —*
*ластаўкі стралой.*

*Радзімы мілай*
*кожная адметнасць*
*Мяне да слёз*
*кранае на вачах...*
*Цякла рака. Жыццё цякло.*
*І вечнасць*
*Цякла кудысь*
*у боскіх берагах.*

## Спас

*Нашы лепшыя песні дапеты,*
*А цяпер, што цяпер нам спяваць?*
*Дзе ж ты ёсць, шчасце рускае, дзе ты?*
*Шчасце наша адно — паміраць?*

*Скрозь бамжы ды старыя па хатах.*
*Дзе, Расія, ён — твой алканост?*
*І ні раю, камуны багатай —*
*Каля ўсё глыбей на пагост.*

*Застаецца адна толькі вера,*
*Што святыя ўсіх вымаляць нас.*
*Мо настане нябесная эра:*
*Міласэрны к няшчасным быў Спас.*

## Будзем як дзеці

*Цемень ранняя. Сумна, марозна.*
*Так зімуем штогод, нібы ў сне.*
*Як біблейскі прарок той — Іона, —*
*Мы выходзім на свет па вясне.*

*А пакуль што — марозная сцюжа,*
*І ў зіме-халадзільніку мы...*
*Толькі дзеці — пунсовыя ружы —*
*Расквітнелі ў абдымках зімы.*

## Вясна

*Вясна, вясна!*
*Цудоўна жыць на свеце,*
*Каб зноў яе*
*так радасна страчаць.*
*Зноў па вясне*
*мы ўсе нібыта дзеці,*
*І хочацца*
*караблікі пускаць.*

*Застыла хмарка,*
*быццам на эцюдзе.*
*Яе казычуць*
*сонца прамяні.*
*Жывуць, працуюць,*
*паміраюць людзі...*
*Вясной пра гэта*
*не кажы ані.*

## Паўночная русалка

*Валасы твае светлыя, белыя,*
*Бы народжаны з пены марской.*
*Грудзі, плечы твае загарэлыя*
*Пахнуць небам, лясной цішынёй.*

*Гаспадыня паморскага берага,*
*Ты пакліч мяне ў лодку з сабой.*
*Мы з табой не адкрыем Амерыку —*
*Можа, шчасце адкрыем з табой?*

## Чакаю слова

*Сяджу, сумую,*
*бы палонны ў яме.*
*Самотна мне,*
*ды некага вініць...*
*Павіс высока*
*месяц над палямі —*
*Як хто сюды*
*прынёс яго свяціць.*

*Ўздыхае шумна*
*у двары карова,*
*І я ўздыхну —*
*ёй быццам у адказ...*
*Душа сумуе*
*і чакае слова,*
*Якое ажывіць —*
*яе якраз.*

## ***

*Да апошняга дня,*
*да апошняга мігу*
*Не пакіну пісаць*
*сваю новую кнігу.*
*Будзе споведзь*
*і будзе прычасце,*
*І радок прамільгне —*
*як апошняе шчасце.*

**Пераклад з рускай Паўла Саковіча**

Ірына ТУЛУПАВА



# Вандроўка па Стамбуле

## Белы горад-палац

Галоўны палац Асманскай імперыі да XIX ст. — Тапкапы´ — быў пабудаваны на месцы, дзе праліў Басфор упадае ў Мармуровае мора. Гэта комплекс хорамаў пераважна белага колеру плошчай больш як 700 тыс. м кв.

**I**

*Тапкапы´-харомы — белага шарону,*
*І вочы стомленыя слепіць белізна...*
*Славянка па гарыстаму адхону*
*Ўзнімалася ўвесь час адна...*

*На ўскрайку берага марскога*
*Калісьці мроіла Хюрэм —*
*Хрышчоная як Раксалана,*
*Украінка ці польская панна,*
*Прывезеная у гарэм.*
*Адна сярод гурта чужога*

*Сваячак новых і рабынь,*
*Наложніца для Сулеймана,*
*Навек адно яму адданай,*
*Свяціла сонейкам з вышынь.*
*Квітнела ружаю чароўнай*

*У хмызняках зайздросных воч,*
*Ішла сваёй дарогай мройнай*
*І стала жонкай нарачонай*
*Таму, хто падзяліў з ёй ноч.*
*З яго палаца на балконе*

*Ўсё паглядала ў дальні свет:*
*Трымцеў славянскі дух палонны,*
*Праз мора мчаўся ветрам гонны*
*Па матчын родны запавет.*

*Змагла ўтрымаць свой крыж пакутны,*
*Ды ўразумела праз гады:*
*Хоць мора тут скрышыла скалы,*
*Не ўбачыць дому, што шукала,*
*Адсюль не выйсці нікуды.*

**II**

*...Каскад палаца — вэлюм белы —*
*Скарбонка слёз людскіх і мрой.*
*Шлях мусульманкі з новай верай,*
*Вадой асвечаны марской.*

*Той шлюбны вальс дагэтуль чутны:*
*Тут правіў мудры падзішах.*
*Прад ім, схаваўшы мулкі страх,*
*Хюрэм знайшла да сэрца шлях*
*З выключнай праўдай у часе смутным.*

*Ў наступніку султана верным,*
*Нашчадку, што ўзышоў на трон,*
*Сын Раксаланы летуценнай*
*Быў абазнаны. Стаў прыемным*
*Ягонай шаблі гучны звон.*

*Ў век залаты асманскай рады*
*Квітнеў палац, як горад-сад.*
*Было каханне, смерць і здрада,*
*Быў смех дзяцей, святло і радасць,*
*Ды час не павярнуць назад.*

## Вечар у Стамбуле

*Зноў вечарэе... Віднота ж такая,*
*Як быццам сонцу тут Ярыла патакае.*
*І над дарогай праз лазуркавы Басфор*
*Святлісты неба купал-амафор.*

*Пазычка — добра, неадданка — кепска.*
*Спагады тут — да донца, да аскепка*
*Мармура ў моры Мармуровым...*
*Пазычым той мармур у горадзе суровым.*

*З адданкай хлебам-соллю. З хлебам*
*ад сінечы*
*Валошкавага лета. Быццам з печы,*
*Круг сонца ў горадзе агністым,*
*Танюткі, на прасвет празрысты.*

*За мора коціцца. А сэрца мкнецца*
*У край, дзе з аканіцамі акенцы.*
*...Зноў вечарэе. Вечар цёмны, росны*
*У Стамбуле ўспамінаецца зайздросна...*

## Aya Irini

У раёне Султанахмед захавалася не перабудаванаю пад мячэць царква Святой Ірыны (па-турэцку Aya Irini). Яна ўзведзеная на месцы храма Афрадыты прыблізна ў 300 г. нашага часу. Лічыцца, што ў царкве знаходзіцца саркафаг імператара Канстанціна.

*Укленчу ў мазаікай упрыгожаным*
*прытворы,*
*Дзе баляваў гісторы сцізорык...*
*Дзе ваяры эпох крыжы кранালі,*
*Дзе запавет Гасподні з сценаў выкрасалі...*
*Рукамі развяду стагоддзяў пыл на ліках*
*Пад купалам крыжападобнай базілікі.*

*Кранальны просты жэст —*
*як рух душы сціплай,*
*І валадар султан перад святыняю —*
*нясмелы.*

*Абраз Збавіцеля — ў разным ківоце,*
*Застылы час у пацямнелай пазалоце.*
*Тут веліч малітоўнага чакання,*
*І воск, як дождж, ў трыкірый*
*дробна капне.*

*Праменяць праўду ў свет*
*царкоўныя харосы —*
*Шлях чалавецтва і пакутлівы, і боскі.*
*Каханне й здрада, смерць*
*стагоддзямі спавіты:*
*Царква Ірыны —*
*на зямлі пяшчотнай Афрадыты.*

*...Раён Султанахмед: Ая Ірына.*
*Суладдзе дум і музыкі. Тут херувімы!*
*Паблізу саркафага Канстанціна*
*Укленчу прад сваёй святой —*
*ў царкве Святой Ірыны.*





# Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ

# Хата

## *Апавяданне*

Андрэй сціснуў кулак. Цяжкая цішыня стаяла ў хаце.

«Дробныя, нікчэмныя, паскудныя людзі. Што родная сястра, што яе вывадак... Вунь як вочкі бегаюць у дарагога пляменнічка. Прыцэньваецца, мабыць, колькі возьмуць за бацькоўскую хату...» — саракагадовы хударлявы мужчына сядзеў, аглушаны навіной, за сталом і спінай адчуваў: Нэля і яе двухметровы бэйбус свідруюць яго вачыма, гатовыя да ўсяго, калі ён па-добраму не адмовіцца.

Камяк шкадавання падступіў да горла, калі падняў вочы і паглядзеў на партрэты ў адзін месяц памерлых бацькоў. Ён, як малодшы, пасля арміі ажаніўся, сюды прывёў сваю Алену. Не склалася, аднак, у нявесткі з маці, збегла ад яго ў горад. Ён не кінуўся за ёй, не стаў упрошваць. Так і пражыў усё жыццё ў бацькоўскай хаце: бацькі старэлі, і ім трэба была дапамога. Нэлька ж раней адведвала іх раз на год, перад Радаўніцай, хаця жыла недалёка, у горадзе, дзе займала добрую пасаду. Калі калолі свінчо, бацькі дзялілі на тры часткі: самім, сыну пры іх і гарадской дачцэ. Бацька тэлефанаваў, каб прыязджала па свежыну. Апошнія гады Нэлька адпраўляла да старых свайго шафёра...

Андрэй працаваў на трактары ў суседняй вёсцы, але, калі бацькі злеглі, звольніўся з калгаса і цэлы год неадступна быў каля старых. Незадоўга да іх смерці наведаць хворых бацькоў прыязджала сястра. Ён на паўгадзіны пакінуў бацьку і маці на яе, каб з'ездзіць на веласіпедзе ў сяльмаг, а калі вярнуўся, то заўважыў, як Нэлька схавала ў сумачку нейкія паперы. І, развітаўшыся з бацькамі, сіганула за дзверы.

Цяпер ён разумеў, навошта яна прыязджала: аформіць завяшчанне на свайго старэйшага сына. Пляменнік, які атрымаў спадчыну, просіць дзядзьку вызваліць хату.

— Што ж, Бог з вамі. Я не буду судзіцца... — у халодных Андрэевых вачах не было злосці, толькі боль і расчараванне. — Я думаў, што маю родную кроў... А памятаеш, Нэлька, як заўсёды навучала нас мама: «Вы — дзве родныя крывіначкі. У гэтым жорсткім свеце нікому да вас не будзе справы, вы зможаце давяраць толькі адно аднаму. Таму хай ніколі нішто вас не пасварыць. Дапамагайце адно аднаму ва ўсім».

— Она была ущэрбнай, наша маці. Жыла па-старому. Цяпер усё іначай — цяпер толькі дзеля сябе жывуць людзі... — жорстка сказала ў адказ сястра.

— Мацьь, ды што ты ўгаворваць будеш... — пырснуў злосцю і нястрыманай усёпераможнай энергіяй пляменнік. — Табе ж сказана: хата па законе мая...

Андрэй зразумеў, што, калі зараз не пакіне хату сам, яго непахісны здаравецпляменнік можа і за шкіркі выкінуць.

— Бог з вамі... — ён устаў, падышоў да шафы. Наверсе ляжаў яго дэмбельскі чамадан.

Мужчына дастаў яго, сцёр пыл, расшпіліў замок. Нетаропка забраў з шафы і паклаў унутр дзве сарочкі, пінжак і туфлі. Пайшоў, не гледзячы на сястру, якая сядзела на стулку пасярод хаты, і пляменніка, што круціўся ля тэлевізара, у кухню. Вярнуўся назад.

— Хоць тэлевізар я купляў, гэта мой падарунак табе, Нэля, да 8 Сакавіка... Карыстайся на здароўе. Усім карыстайся... Тваё наступіла права...

Андрэй забраў маленькае люстэрка, прыбор для галення, адэкалон. Прыгожы флакон толькі пазаўчора, якраз да мужчынскага свята, падарыў яму самы дарагі чалавек. Ніна працавала прадаўшчыцай у сяльмагу, сама гадавала дзевяцігадовага сына. Ён хацеў парадаваць сястру, што наладзіцца, нарэшце, яго ўласнае жыццё, і так абрадаваўся, калі пабачыў родных на парозе. Пазаўчора ж яны дамовіліся: Ніна стане яго жонкай і пераедзе ў яго хату. А сёння — бачыш, як павярнулася, усё атрымаецца іначай: ён са сваёй хаты пойдзе ў прымы. Не судзіцца ж з сястрой. Ды і гэта воля бацькоў: мабыць, усё ж яны любілі Нэльку больш за свайго крыху шалапутнага сына, што не ўтрымаў у руках жонку, застаўся ля іх...

Усё, сабраўся.

Сястра маўчала, апусціўшы вочы долу.

Пляменнік пстрыкаў пераключальнікам, шукаючы, мабыць, каналы, не ведаючы, што іх у вёсцы паказвае толькі два.

Андрэй быў знешне спакойны, хаця крыўда на бацькоў, на сястру, якой у гэтым жыцці ўсяго было мала, падступалася да горла. Ён разумеў, што трэба хутчэй выйсці на гаючы марозны холад, бо нешта страшнае нараджалася ў яго душы, а ён не дапускаў туды жудаснай



ярасці. І калі не стрымаецца, то наробіць бяды. Гарачы з маладосці, жывучы побач з хворымі бацькамі, ён навучыўся цярпець, стрымліваца, разумець чужы боль. Ад напружання пачало дрыжэць усё цела. Аднак прымусіў сябе спыніцца ў парозе, азірнуцца. Ціха прамовіў на развітанне:

— Я не прападу. Толькі цяпер, Нэля, забудзься назаўсёды, што ў цябе быў брат... Памёр разам з маці і бацькам.

Ён не чуў, як сястра, усё ж не камень, расплакалася, калі за ім зачыніліся дзверы.

* * *

На жаночы дзень Віцька, пасынак, цэлы дзень нешта клеіў, майстраваў. Прыгожы домік з запалак дапамог яму пачаць айчым, і хлопчык так захапіўся гэтай справай, што закончыў яго рабіць толькі пад вечар.

Цяпер разам яны згатавалі святочную вячэру: насмажылі мяса, зварылі бульбу, зрабілі салат і нават бутэрброды са шпротамі, нарэзалі кілбасы. А на салодкае — па просьбе Андрэя — галоўны інжынер калгаса прывёз шакаладны торт. А яшчэ цюльпаны. У кішэні мужчыны ляжаў залаты пярсцёнак, які Андрэй купіў для сваёй каханай яшчэ раней, калі жыў адзін у бацькоўскай хаце і спецыяльна адлучаўся ў райцэнтр.

Усё, акрамя бульбы, было на стале. Нінка ж затрымлівалася. Рэйсавы аўтобус, на якім яна паехала ў горад, ужо даўно павінен прыйсці. А ад прыпынку — колькі там пешшу да іхняй старэнькай хаты, што дасталася жанчыне ад салдаткі-маці.

Андрэй быў удзячны Ніне. Толькі пабачыла яго збалелыя вочы — і ўсё. Ні пра што больш не пыталася: чаму так надумаўся, без вясельнай вечарыны. Прыйшоў — значыць лёс такі. Яе шчасце — іх сумеснае шчасце і доля. Толькі і сказаў мужчына тады:

— Нэля прыехала. Яна — гаспадыня...

Ноччу Андрэй не мог заснуць, і яна, прачнуўшыся, выпадкова дакранулася да яго твару. Як апякло яе, спалохалася: мужчына ціха плакаў, але хаваў ад яе прычыну свайго болю. І яна не змагла заснуць да самага золку.

Нарэшце, калі Андрэй і Віцька, стаміўшыся ў чаканні жанчыны, глядзелі па тэлевізары святочны канцэрт, Ніна з'явілася ў парозе.

— Дзе мае мужчыны? Чаму не сустракаюць? У мяне ж такія цяжкія сумкі... — весела паўшчувала. Андрэй ухапіў адну сумку, Віцька — другую.

— Мы цябе зачакаліся, дарагая... — пацалаваў сваю абранніцу мужчына і дапамог распранууцца.

— А ў нас так цёпленька...— рассмяялася хударлявая Нінка, якая выглядала вельмі прыгожай у новым касцюме. — А мне грамату далі. І падарунак... Вось так.

— Віншуем цябе, так, Віцька? Наша мама — малайчына! — усміхнуўся Андрэй.

— Ага, дзядзя Андрэй. Мама мая прыгожая... І ў нас ёсць для яе падарункі... Пайшлі, мама, мы і святочны стол накрылі з... Андрэем.

— Калі хочаш, сынок, можаш называць Андрэя татам... — ласкава прамовіла Ніна, ступаючы ў пакой, які служыў і залай, і спальняй адначасова.

— Я... не супраць... калі Андрэй не супраць...— разгубілася дзіця.

— І я не супраць, маленькі... — весела сказаў Андрэй.

Хлопчык шчасліва засмяяўся і пацягнуў за руку маці да стала.

— Тут табе і домік, і торцік, і кветкі. Бачыш, наш тата Андрэй аднекуль прынёс...

— Дзякуй, дарагія мае... — жанчына пацалавала хлопчыка і мужчыну.

* * *

Андрэй пачаў адкаркоўваць шампанскае, як раптам стукнуў сабе па лбе.

— Вось балбес. Я ж пра галоўнае забыўся... Прабач...

Ён накіраваўся на кухню і праз хвіліну вярнуўся. У руках у мужчыны была чырвоная скрыначка.

— Дарагая мая! — усхвалявана прамовіў ён, глядзячы жанчыне ў вочы. — Я нават і не верыў, што Бог пашле мне такое шчасце, каханне. Я хачу прапанаваць табе, Ніна, афіцыйна стаць маёй жонкай і прыняць гэты пярсцёнак як сімвал нашага кахання...

— Божа, Андруша...

— Ура!!! — заскакаў малы. — Значыць, вы цяпер пажэніцеся!

— Пажэнімся, пажэнімся, жэўжык... — пагладзіла па галаве сына Ніна і патанула ў абдымках любага чалавека.

— Тады час за стол... — корак ад шампанскага стрэліў у столь, і Андрэй, радасны і шчаслівы, наліў іскрыстага віна ў келіхі.

Ніна раптам стала засяроджаная, і гэта вельмі здзівіла мужчыну.

— Нешта здарылася, дарагая? — спытаўся ён.

Жанчына загадкава ўсміхнулася.

— Ат, хацела здзівіць заўтра, не вытрымаю...

Нечакана яна кінулася ў кухню і праз хвіліну вярнулася з сумачкай. Дастала з яе нейкія паперы. Перадала іх Андрэю.

— Што гэта? — мужчына паставіў келіх, які трымаў у руках, на стол.

— Чытай... У нас цяпер ёсць новая хата. Яна належыць толькі нам... — радасна паведаміла Ніна.

— Як гэта можа быць... — не верыў сваім вачам мужчына.

— Вельмі проста. На наступны дзень, як ты прыйшоў да нас, я была ў сельсавеце. Сакратарка сказала, што твая сястра ці яе сын прадаюць бацькоўскі дом. Нэля яе прасіла, каб менш людзі ведалі, каб яна падказала таму, хто хоча. А яшчэ сакратарка сказала, што ўся вёска абражана такімі паводзінамі тваёй Нэлі: выгнаць цябе са сваёй жа хаты. Таму і прадаюць нядорага, бо сорам людзям у вочы глядзець. А яшчэ ў раёне, начальніца...

— І ты што?

— Я адразу патэлефанавала. Сказала, што хачу купіць хату, бо свая старая, даваенная...

— А Нэля?

— Пяцьсот даляраў... У мяне не было столькі грошай, пазычыла ў сяброўак. Учора тваёй сястры з працы пазваніла. Дамовіліся сустрэцца ў горадзе. Яна, нягледзячы на выхадны дзень, знайшла натарыуса. Аформілі за дзесяць хвілін...

— Ну і сволач сястрыца мая... Думаў, хоць на дачу сабе пакіне, а тут вось як — адразу прадаць... — зазлаваўся Андрэй. — Бога ў яе душы няма!

— Кінь. Грошы — справа нажыўная. Я ж бачу, начамі не спіш, хату сваю шкадуеш... — усміхнулася Ніна.

— Не хату — памяць пра бацькоў, там маё дзяцінства прайшло...

— Алe, любы, гэта не ўсё... Ты б толькі бачыў яе твар, калі я паведаміла, што выходжу за цябе замуж і што мы будзем цяпер жыць у сваёй хаце. Нэльку ажно на плямы прабіла, і мне стала яе шкада, ведаеш... — абняла Андрэя жанчына. — Яна — няшчасны чалавек.

— Не шкадуй. Усё правільна. Яна зрабіла свой выбар. — Андрэй пацалаваў жанчыну і звярнуўся да сына:

— Віцька, ты хочаш жыць у новай хаце? Мы заўтра пераязджаем. Я вазьму ў калгасе трактар...

# Колас на ржышчы...

Мікола МІКУЛІЧ

2 сакавіка бягучага года пасля цяжкай і працяглай хваробы пайшоў з жыцця вядомы беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца і літаратурны крытык Мікола Арочка (пахаваны 3 сакавіка на радзіме). Не стала чалавека шчырай і глыбокай душы, уважлівага і далікатнага са сваімі калегамі і таварышамі, руплівага працаўніка на ніве народна-нацыянальнай духоўнасці і культуры. М. Арочка пражыў вялікае, насычанае важнымі грамадска-сацыяльнымі падзеямі і клопатамі жыццё, у якім хапіла месца і радасці ад значных творчых здабыткаў, і гору ў сувязі з трагічна балючымі стратамі і выпрабаваннямі лёсу.

Нарадзіўся Мікалай Мікалаевіч Арочка 10 снежня 1930 года ў невялікай вёсцы Вецявічы Слонімскага павета Гродзенскай губерні ў былой Заходняй Беларусі. Вучыўся ў польскай пачатковай школе ў суседняй вёсцы Селявічы, у Вялікакракоцкай сямігодцы. Падчас навучання ў 6 класе М. Арочка захварэў на поліяміэліт і два гады быў прыкаваны да ложка, праходзячы курсы складанага лячэння. Вынікі перанесенага захворвання сказваліся на працягу ўсяго яго далейшага жыцця і працы.



У 20 гадоў М. Арочка закончыў Азярніцкую сярэднюю школу Слонімскага раёна і паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе, дарэчы, вучыўся на адным курсе з Нілам Гілевічам, Адамам Мальдзісам, Арсенем Лісам, некаторымі іншымі будучымі вядомымі літаратарамі і даследчыкамі. Пасля заканчэння БДУ працаваў у часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі», газеце «Літаратура і мастацтва». У трыццацігадовым узросце М. Арочка перанёс цяжкую форму інфаркту і быў вымушаны пакінуць працу. Больш як тры гады ён жыў разам з сям'ёй у роднай вёсцы Вецявічы, праходзячы рэабілітацыю пад апекай родных і блізкіх, і найперш жонкі Марыі Іванаўны.

Збліжыўшыся і пасябраваўшы з Марыяй Іванаўнай яшчэ ў Азярніцкай сярэдняй школе, М. Арочка прайшоў з ёю і супольнымі ўніверсітэцкімі сцежкамі, калі навучаліся ў адной студэнцкай групе. У яе асобе паэт набыў вернага сябра і таварыша, клапатлівага памочніка і дарадцу на ўсё жыццё. Працуючы спачатку рэдактарам на Беларускім радыё, у Рэспубліканскім доме народнай творчасці, а пазней — намеснікам дырэктара Дома літаратара, яна, як ніхто іншы, выдатна адчувала і разумела мужа і ўсё рабіла для яго здароўя і творчага развіцця. «Мы настолькі былі аддадзены адно аднаму, настолькі даражылі нашымі адносінамі, што цяжка перадаць словамі, — з вялікай скрухай і адначасова замілаваннем у голасе ўспамінае Марыя Іванаўна. — Такога кахання цяпер не бывае... Уявіце сабе: мы 62 гады пражылі разам... У вялікай любові, у поўным узаемаразуменні, даверы і згодзе...»

У 1966 годзе М. Арочка закончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР і з таго часу працаваў у гэтай навуковай установе — спачатку малодшым (1966 — 1969), пасля старшым (1969 — 1986) і вядучым навуковым супрацоўнікам (1986 — 1998). Абараніў кандыдацкую (1967) і доктарскую (1980) дысертацыі.

Неабходна падкрэсліць той факт, што М. Арочку давялося перанесці цяжкія падзеі, якія аказалі вялікі ўплыў на яго жыццё і творчую дзейнасць. У красавіку 1981 года пры нявысветленых абставінах трагічна загінуў у Мінску старэйшы сын паэта Леанід, які, дарэчы, меў схільнасці да літаратурнай працы, у прыватнасці, спрабаваў пісаць п'есы. У снежні 1993 года быў знойдзены мёртвым ва ўрочышчы Зялёнае пад Мінскам малодшы сын Віталій. А літаральна праз два гады трагічна загінула пад коламі электрычкі ў Мінску і яго жонка Святлана. Ратуючыся ад трагічнага наканавання лёсу, апошнія два дзесяцігоддзі згараваныя і прыгнечаныя нядоляю Мікалай Мікалаевіч і Марыя Іванаўна жылі на радзіме, у вёсцы Вецявічы, выхоўваючы ўнука Валерыка, які ў пяць гадоў застаўся круглым сіратою. Натуральна, мелі агарод, трымалі гаспадарку, жылі самымі звычайнымі сялянскімі клопатамі і праблемамі, з гаючай працы на роднай зямлі. Паэту даводзілася складаць вершы літаральна падчас ворыва, баранавання бульбы, падчас абкошвання канавы ці пасучы коз. Як кажа Марыя Іванаўна, у яго старэнькім зашмальцаваным кошыку заўсёды можна было знайсці паперу і аловак, чарнавікі, накіды новых твораў. Неслухмяныя, пакручастыя пальцы мастака ашчапервалі то плуг, то касу, то аловак...



Першыя зборнікі паэта «Не ўсе лугі пакошаны» (1958), «Ветраломная паласа» (1962) і «Крылатае семя» (1967) звярталі на сябе ўвагу непасрэднасцю светаадчування, натуральнасцю разгортвання думкі і пачуцця, прагай самасцвярджэння лірычнага героя. Ён вызначаўся арыентацыяй на высокія духоўна-маральныя каштоўнасці, змястоўным, насычаным эмацыянальным жыццём: «Не хачу між калоссяў быць коласам тым, / Што часамі ўзрастае без зерня» («Пакуль малады»).

Гэтым часам М. Арочка распрацоўваў традыцыйны для беларускай літаратуры верш — лірыка-апавядальны па сваім характары, з канкрэтна-пачуццёвай, прадметна-рэчыўнай метафорыкай і пластычным рытміка-інтанацыйным малюнкам. У адзначаных зборніках знаходзім даволі шмат цікавых вобразаў і мастацка-стылявых канструкцый, якія сведчылі пра несумненную адоранасць маладога аўтара: «Залаты абрус іржышча / На палетку жнівень разаслаў» («Соль»), «Ногі просяцца ў далеч нязнаных дарог. / Свежасць ніў удыхнуць хочуць грудзі» («Пакуль малады») і інш.

Зборнікі М. Арочкі «Кветкі бяссмертніку» (1972), «Матчына жыта» (1978), «Падземныя замкі» (1986) і іншыя засведчылі асаблівасці драматызацыі лірычнага мыслення аўтара, узрастанне вагі філасофска-медытатыўнага асэнсавання складаных і супярэчлівых з'яў і працэсаў рэчаіснасці.

Творы паэта 1970 — 1990-х гадоў глыбока выяўляюць характэрныя грані яго жыццёвага досведу, духоўна-сацыяльнай біяграфіі. Прыватна-чалавечае, асабіста-інтымнае арганічна пераплятаюцца ў іх з грамадзянска-патрыятычным, агульначалавечым. Яны характарызуюцца сцвярджэннем адзінства духоўна-маральнага свету асобы і прыроднага асяроддзя, павагі і любові да роднай зямлі і працы на ёй, успаўленнем перспектыў і даляглядаў чалавечага жыцця:

*Я сёння пражыў усю яе,*
*Світальную дарогу ў кут бацькоўскі.*
*Іду з чыгункі... Цемра растае.*
*І беды прыглушаюцца мае,*
*Калі глытаю вецер роднай вёскі.*
*(«Дарогай світання»)*

У многіх вершах паэт звяртаецца да сваіх вытокаў, імкнецца асэнсаваць карані радавой біяграфіі, згадвае старонкі заходнебеларускага культурна-асветнага руху і рэвалюцыйнага змагання, на якіх выхоўваўся, здратаваных сцежкі ваеннага ліхалецця («Падпольшчыца», «Партызанскі хутар», «Вялікая Кракотка» і інш.).

У вершах, напісаных на заключным этапе жыцця і творчасці, якія яшчэ не дакаваліся і не вядомыя чытачу, М. Арочка, апелюючы да ідэй сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці і свабоды, звяртаўся да крывава-балючага матэрыялу сацыяльна-палітычных рэпрэсій («Спісы высялення», «Трагедыя Тарашкевіча», «Падземны маналог рэабілітаванага» і інш.), сцвярджаў ідэі незалежнага развіцця Беларусі, яе нацыянальна-культурнай самабытнасці, зберажэння роднай мовы («Святая зямля», «Апошняе жаданне», «Душа роднай мовы» і інш.), прыгадваў сваіх самых блізкіх і дарагіх людзей — маці і бацьку, сыноў Леаніда і Віталія («Каласы ў хвартуху тваім», «Бацькава вІдушчасць», «Страта» і інш.), услаўляў духоўна-хрысціянскія каштоўнасці чалавечага жыцця («Па дарозе на споведзь», «Малітва да Бога-бацькі», «Асвячэнне крыніцы» і інш.).

Вялікім укладам у беларускі эпас з'яўляюцца драматычныя паэмы М. Арочкі «Курганне», «Крэва», «Судны дзень Скарыны» і «Каранацыя Мендаўга». Яны прысвечаны асэнсаванню складаных старонак нацыянальна-гістарычнага развіцця, якія сталі вызначальнымі ў лёсе народа.

Паэт ішоў у глыбіню гістарычных падзей і часу, імкнуўся спасцігнуць асновы багатага і разнастайнага духоўна-сацыяльнага вопыту і традыцый роднай зямлі. Творы ўражваюць канцэптуальнасцю філасофскага мыслення, прасторнасцю гуманістычнай думкі, падкрэсленай ёмістасцю мастацкага зместу. Яны прасякнуты выразным аналітычным пачаткам і адначасова глыбокім патрыятычным пафасам, выяўленнем спаконвечных сховаў мудрасці, духу і волі Радзімы. Нездарма, успамінаючы свайго былога калегу па сумеснай працы ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслаў Чамярыцкі ў нашай нядаўняй гутарцы адзначае наступнае: «Мікола Арочка быў не толькі таленавітым паэтам, выдатным знаўцам і даследчыкам беларускай паэзіі XX стагоддзя. Ён глыбока цікавіўся і далёкай мінуўшчынай Беларусі, яе багатай і складанай гісторыяй, імкнуўся спасцігнуць і творча асэнсаваць драматычны лёс беларускага народа. Нездарма крылатыя словы Янкі Купалы «пачнём дакапывацца самі разгадкі нашых крыўд і бед» Мікола Арочка зрабіў эпіграфам сваёй гістарычнай паэмы «Крэва». Ён быў захоплены культурна-гістарычным подзвігам вялікага Францыска Скарыны, і ў яго драматычным жыццёвым лёсе паэт бачыў духоўную драму ўсяго беларускага народа. Свой глыбокі роздум на гэты конт М. Арочка выклаў у сваёй выдатнай паэме «Судны дзень Скарыны», якая па праве з'яўляецца адным з найбольш значных твораў у беларускай літаратуры, прысвечаных нашаму першадрукару».

Сказанае В. Чамярыцкім своеасабліва развівае лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіль Жураўлёў, які таксама доўгія гады працаваў з паэтам у Акадэміі навук. «З сённяшнім днём і літаратурна-грамадскім часам, — лічыць ён, — цесна звязаны многія лепшыя творы Міколы Мікалаевіча і, у прыватнасці, такія яго драматычныя паэмы, як «Крэва» і «Судны дзень Скарыны», дзе ў цэнтры аўтарскай увагі знаходзяцца знакамітыя гістарычныя постаці, якія ўмелі глянуць далёка наперад, пераадольваючы шматлікія цяжкасці, перашкоды, супраціўленні і непаразуменні, пакрысе і няўхільна закладваючы цаглінка за цаглінкаю падмурак нацыянальнай ідэі і агульных асновы праекта пабудовы нацыянальнай еўрапейскай краіны з найменнем Беларусь».

Арочку-літаратуразнаўцу і літаратурнага крытыка найперш хваляваў, па яго словах, «каларытны, лаканічны, згушчана схоплены паказ істотнага ў біяграфіі душы, лёсу, часу». Гэта добра выявілі кнігі «Галоўная служба паэзіі» (1974), «Беларуская савецкая паэма» (1979), «Максім Танк: жыццё ў паэзіі» (1984), «Паэзія і вайна» (1987) і іншыя. Манаграфіі даследчыка пра беларускую паэму і творчасць Максіма Танка, на маю думку, з'яўляюцца аднымі з лепшых у беларускім літаратуразнаўстве.

Неабходна заўважыць, што М. Арочка ўзяў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4 тамах 5 кнігах. Глыбокім аналізам духоўна-мастацкага свету асобы, характэрных рыс індывідуальна-аўтарскага стылю вызначаюцца яго раздзелы пра паэзію 1930-х гадоў, творчасць А. Куляшова, М. Танка, В. Таўлая і інш.

Творчая спадчына Міколы Арочкі — значная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя. Уся яна — і мастацкая, і літаратуразнаўчая — з'яўляецца прыкладам сумленнага служэння пісьменніка, гуманіста, патрыёта роднай зямлі. Кнігі М. Арочкі хочацца чытаць і перачытваць. Яны развіваюць і ўзвышаюць, дапамагаюць асэнсоўваць праблемы жыцця чалавека і грамадства.

***Цалкам артыкул Міколы Мікуліча будзе надрукаваны на старонках часопіса «Полымя».***

# Каб кустоўем не зарасло

Днямі адзначыў 75-гадовы юбілей Уладзімір Гілеп, старшыня Беларускага фонду культуры, Беларускага камітэта Міжнароднай рады па ахове помнікаў і гістарычных мясцін (ICOMOS), член праўлення Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Павіншаваць юбіляра ў музей Максіма Багдановіча (месца невыпадковае: музей ствараўся пры актыўным удзеле Уладзіміра Аляксандравіча) 12 сакавіка прыйшлі сябры, аднадумцы, калегі, а таксама міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў.

Тацццяна СТУДЗЕНКА

Пра значэнне асобы Уладзіміра Гілепа для беларускай культуры сведчаць яго справы: па спецыяльнасці — гісторык-археолаг, на пасадзе намесніка па навуковай частцы дырэктара Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (цяпер — Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь) ён — стваральнік першай поўнамаштабнай экспазіцыі ў 1967 г., пры адпаведных абавязках — адзін з найбольш дзейсных укладальнікаў экспазіцыі Беларускага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў час, калі былі адкрытыя філіялы мемарыяльны комплекс «Хатынь» і «Курган Славы» (1969 — 1974).

У якасці супрацоўніка аддзела культуры ЦК КПБ, пазней намесніка міністра культуры Рэспублікі Беларусь — адзін з ініцыятараў і непасрэдных удзельнікаў стварэння Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, Веткаўскага музея народнай творчасці, Заслаўскага і Раўбіцкага музеяў, гісторыка-культурных запаведнікаў у Полацку, Заслаўі, Нясвіжы, персанальных музеяў А. Міцкевіча, В. Ваньковіча, М. Шагала, М. Багдановіча.

Менавіта пры ім на грамадскай пасадзе дырэктара Нясвіжскага запаведніка распрацавана канцэпцыя, статут, закладзеныя асновы плана рэгенерацыі старажытнага Нясвіжа, створаная «Нясвіжская Акадэмія» — двухгадовая летняя школа па падрыхтоўцы архітэктараў гістарычных ландшафтаў — і Міжнародны фонд «Нясвіж».

З 1996 г. Уладзімір Гілеп узначальвае Беларускі фонд культуры, які, па яго словах, выступае каталізатарам намаганняў айчыннай інтэлігенцыі па ўшанаванні і вывучэнні гісторыка-культурнай спадчыны краіны. «Міністр культуры і яго намеснікі пры ўсім жаданні пра ўсё дбаць не могуць. Трэба падключаць грамадскасць, каб яна выпрацоўвала ідэі, якіх у чыноўнікаў звычайна не хапае. Задача БФК — пачаць, разгарнуць новую, перспектыўную праграму на грамадскіх пачатках, зацікавіць ёю вертыкаль, каб яна стала дзяржаўнай», — распавядае Уладзімір Гілеп, асобна падкрэсліваючы адзінства спраў БФК і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.


Фота Кастуся Дробава

«Самая значная і грунтоўная праграма Фонду, распачатая пры першым яго старшыні Іване Чыгрынаве 25 год таму, — праграма «Вяртанне». Вяртанне на радзіму матэрыяльнай спадчыны (альбо хаця б толькі збор звестак пра знаходжанне яе ў свеце), вяртанне ў свядомасць нашчадкаў славутых імёнаў Бацькаўшчыны. Ёсць яшчэ адна каштоўнасць, пра вяртанне якой мы дбаем штодзень: гэта — Мова. Дзеля яе захавання і надзённага гучання існуе наша «Краязнаўчая газета». Тут адлюстраваная мова самабытная, звязаная з гістарычным мінулым. Без мовы не спраўдзіцца як нацыя ні адзін народ у свеце».

Уладзімір Гілеп і яго паплечнікі па праве ганарацца выданнямі Фонду: «Новай зямлёй» Якуба Коласа на беларускай, рускай і польскай мовах, «Дзікім паляваннем караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча — на беларускай, рускай, англійскай і ўкраінскай, вершамі Максіма Багдановіча — на 10 (!) мовах свету. Усе яны багата і таленавіта ілюстраваныя — сапраўдныя рарытэты, крыніцы натхнення для паэтаў і чытачоў.

«Нацыя не зможа спраўдзіцца і без гісторыі. Адсюль ініцыіраваная Фондам дзяржаўная праграма «Замкі Беларусі». Аб'екты яе, у прыватнасці, Гальшанскі і Любчанскі замкі, сёння актыўна адраджаюцца. Што датычыць Гальшанскага, то, улічваючы яго не надта добры стан, на ўзроўні Міністэрства культуры Беларусі было прынята рашэнне аб экспанаванні руін. Ідзе праца па кансервацыі і частковай рэстаўрацыі Гальшанскіх муроў. Улічваецца таксама, што замак нельга «адарваць» ад мястэчка Гальшаны, з якім ён — адно цэлае. Пры тым, што гальшанская забудова пачатку XX ст. вельмі добра захавалася, разам з замкам яна — выдатны аб'ект для турызму.

У той жа час у Любчанскага замка — выдатныя перспектывы для рэстаўрацыі. Пакуль яна ажыццяўляецца на грамадскіх пачатках. Штогод вясной тут збіраюцца валанцёры, якімі кіруе Аляксандр Пячынскі — куратар па навуковых даследаваннях і рэстаўрацыі месца».

«Мы, беларусы, — памяркоўныя, як кажуць. Гэта добра. Не былі б толькі абыякавыя. Цікавіліся б, усведамлялі мінулае, годна трымалі яго гонар — гонар нацыі. Акцэнтаванне дзяржавы і нацыі павінна пачынацца з гісторыі. Я не кажу пра вялікую гісторыю ўсёй краіны, але пра гісторыю кожнай вёскі, кожнага мястэчка. Мы спраўдзімся як нацыя тады, калі кожная вёска і мястэчка будуць ведаць сваіх выбітных людзей, якія тым ці іншым чынам вызначалі яго лёс. Каб усім ім былі там помнікі, каб цягнуліся туды людзі — тамтэйшыя і прыезджыя. Каб не зарасталі сцежкі травой, а навакалле — кустоўем».

Шляхі «маленькай» і «вялікай» гісторыі — адзіныя. Калі даць ім злучыцца, то не толькі вёсак кінутых не будзе, але і сутнасць Беларусі будзе глыбейшая і паўнейшая, а водгук у свеце — далейшы і мацнейшы. Не сёння, дык заўтра. На гэта працуюць Беларускі фонд культуры і яго старшыня.

## Час чытаць


Фота з сайта auto.onliner.by

# Шкілет як сімвал паэзіі

Заўсёды ўражвае ўменне мастака і дызайнера Уладзіміра Цэслера выдаць гледачу квінтэсэнцыю, сімвал з'явы, падзеі. Прываблівае яго мастацкае асэнсаванне жыцця. Нагодай запытацца ў мастака пра выбар кніг для чытання стала адна з яго мініяцюр, якія ўразаюцца ў памяць і прымушаюць асэнсоўваць іх шматкроць, — «Пегас XX стагоддзя». Сімвалам паэзіі стаў шкілет дыназаўра.

**— Раскажыце, калі ласка, пра гэты твор.**

— Насамрэч гэта адна з трагічных работ — помнік Мандэльштаму, Бродскаму і ўсім вялікім расійскім паэтам, жыццё якіх абарвалася ў тым стагоддзі.

**— Вашы любімыя аўтары?**

— Складана вылучыць адразу. Сэлінджэр, Маркес. У апошнія гады — Пялевін.

**— Уладзімір, ці шмат часу ўдаецца правесці з кнігай?**

— Няма часу на чытанне, сапраўды. Паверыце, нават на працу часу няма! Мне не хапае 24 гадзін у суткі.

**— Мяркуючы па апошняй выстаўцы, не паверу. Лепш раскажыце, як прыходзіць да вас другое дыханне. Што дае сілы?**

— Безумоўна, сын. Зрабіць так, каб яму ўсяго хапала, — галоўны стымул. А ўвогуле праца — гэта руціна. Іншы чалавек усё жыццё працуе за станком. Скажыце, як ён гэта вытрымлівае?

**— Кнігі якіх аўтараў выбіраеце для сына?**

— Сын сам выбірае, я яму не навязваю. На Новы год папрасіў кнігу «Самыя высокія хмарачосы свету» — і атрымаў падарунак.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Штогоднік для студэнтаў

Студэнты факультэта гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы зладзілі выданне альманаха «Рэха мінуўшчыны». Не так даўно пабачыў свет трэці выпуск унікальнага штогодніка.

Настасся ВЕСЯЛУХА

Ідэя стварэння зборніка студэнцкіх навуковых артыкулаў узнікла ў 2010 годзе, а ініцыятыва выходзіла ад Алеся Горнага, які на той момант з'яўляўся старшынёй Студэнцкага навуковага таварыства факультэта. На стварэнне альманаха натхніла наведванне Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў) і Мінскай духоўнай семінарыі (Жыровічы). У гэтых навучальных установах студэнты маюць магчымасць дзяліцца сваімі распрацоўкамі ў самастойна арганізаваных друкаваных органах. Паколькі студэнты факультэта гісторыі і сацыялогіі вядуць даследаванні ў розных напрамках, па тэмах курсавых і дыпломных работ робяць свае невялікія адкрыцці, пра якія ведаюць па сутнасці толькі яны і іх навуковыя кіраўнікі, то было б справядліва дапамагчы ім падзяліцца высновамі з больш шырокім колам чытачоў.

Так, у 2010 годзе ў свет выходзіць першае «Рэха мінуўшчыны» (памяці прафесара Івана Коўкеля). Яго змест склалі работы па розных пытаннях айчыннай і сусветнай гісторыі: развіццё картаграфіі ў сярэднявечнай Еўропе, эвалюцыя рыцарства, касоўская праблема ў Югаславіі (1945 — 1990), дзіцячыя дамы ў Гродзенскай вобласці ў 1944 — 1954 гг. Увайшлі і публікацыі, прысвечаныя праблемам крыніцазнаўства і гістарыяграфіі: Баркулабаўскі летапіс як крыніца па вывучэнні прыродных катаклізмаў і іх наступстваў, гістарычныя погляды В. Ластоўскага і іншыя. Раздзел «Краязнаўства» склалі матэрыялы па гісторыі родных мясцін студэнтаў. У зборніку таксама былі змешчаны артыкулы, прысвечаныя вывучэнню этнаграфіі і генеалогіі. Раздзел «Персаналіі» распавядаў пра лёсы знакамітых і не вельмі асоб, якія змянілі гісторыю Бацькаўшчыны ці свету. Выданне выклікала станоўчыя водгукі як студэнтаў, так і выкладчыкаў універсітэта. Таму працу вырашылі працягваць.

2011 год — другі выпуск «Рэха мінуўшчыны». У параўнанні з папярэднім пашырылася тэматычнае кола прадстаўленых артыкулаў, што, у сваю чаргу, прывяло да ўзнікнення новых раздзелаў. Так, тут ужо маецца «Археалогія» з адпаведнымі публікацыямі, «Палітычны лікбез» з аналітычнымі працамі па палітычнай сітуацыі ў Беларусі і свеце. Тут мае месца і раздзел, прысвечаны перспектыўнаму кірунку даследавання гендарнай гісторыі, а ў ранейшых раздзелах павялічылася колькасць артыкулаў і пашырылася іх тэматыка. Акрамя таго, у альманаха стала больш аўтараў, бо па прапанову ўзяць удзел у выданні чарговага выпуска штогодніка ахвотна адгукнуліся студэнты з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.

І вось — трэці выпуск «Рэха мінуўшчыны», ён ужо выходзіць на міжнародны ўзровень. Выданне склалі артыкулы студэнтаў ГрДУ імя Я. Купалы, БДУ, Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта, а таксама Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. Як і раней, у альманах увайшлі артыкулы, звязаныя з гістарыяграфіяй, крыніцазнаўствам, гендарнай гісторыяй і іншыя, а іх тэматыка закранае розныя аспекты гісторыі: гісторыя яўрэйскага насельніцтва на Беларусі, асноўныя тэндэнцыі развіцця краіны ў міжваенны перыяд, гісторыя пчалярства, паганства і фальклору на Палессі, гісторыя заходніх і паўднёвых славян.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Папяровыя ці электронныя?

Вельмі часта мне даводзіцца чуць ад блізкіх людзей і проста знаёмых: «Ну што ты прычапілася да сваіх кніг! Яны паміраюць, хутка ўсё заменіць лічба!» Шчыра кажучы, я ўжо стамілася выслухоўваць заўвагі на гэтую тэму і амаль кожны раз кідацца ў бой, як стары салдат. Таму сёння хочацца выказацца раз і назаўжды: сябры, кніга ў сваёй сутнасці не памрэ ніколі! Як ні дзіўна, але такога ж меркавання прытрымліваецца і Дэн Франклін, рэдактар электронных выданняў самага буйнога выдавецкага дома Вялікабрытаніі *The Random House Group UK*: «Ці памірае класічная кніга? Так, але гэта датычыць тых, для каго яна ніколі і не жыла».

Давайце спачатку акрэслім сутнасць самой праблемы, якой насамрэч... няма. Па вялікім рахунку, уся палеміка разгортваецца толькі вакол пытання зручнасці і прагрэсіўнасці, і зусім не ўлічваецца той факт, што першачарговым з'яўляецца пытанне свабоды выбару. Мяркуйце самі: хіба мы, набываючы рыдар ці планшэт, абавязаны адмаўляцца ад папяровых кніг? Не. А ці варта чытачу-традыцыяналісту бегчы як чорт ад ладану адразу, як толькі ён пачуе словазлучэнне «электронная кніга»? Не думаю. Тут хутчэй важны псіхалагічны камфорт кожнага з нас і магчымасць спалучаць носьбіты. Гэта ніякім чынам не замах на сакральную сутнасць кнігі. Тым больш пры такім раскладзе падаюцца зусім недарэчнымі: напады абывацеляў, калі яны давядваюцца, што я працую ў выдавецтве. У гэтым выпадку хочацца досыць рэзка выказацца: па-вашаму, электронныя кнігі растуць гатовыя на галінках рабіны?

Змяняецца форма падачы матэрыялу, але не сутнасць захавання інфармацыі ў часе і перадача яе ў межах досыць шырокай прасторы. Да таго ж, на факце існавання выдавецтваў гэта ніяк не адбіваецца. Бо менавіта яны па-ранейшаму і ствараюць кантэнт.

Звярнуўшыся да пераваг і недахопаў, мы бачым, што як ні сумна, але ў такім узвышана-духоўным пытанні, як кніжны бізнес, на першае месца выходзіць усё ж паняцце «бізнес». Што выдавец, што чытач — кожны будзе лічыць свае фінансавыя выгады ці ўжо страчаныя магчымасці.

Кнігалюб-інфармацыйнік будзе ўсё ж схільны эканоміць фінансы. Хоць калі гаворка ідзе не пра дарагое падарункавае выданне на высакаякаснай паперы, то пра прынцыповую розніцу ў коштах паміж паперай і лічбай казаць не выпадае. Бо працу па падрыхтоўцы рукапісу да друку ніхто не адмяняў. Пры гэтым важнае значэнне мае той факт, што паняцце «тыраж» у сегменце электронных кніг адсутнічае. Не пазайздросціш лёсу чытача-з-паперы, калі яму давядзецца пачуць у адказ: даруйце, тыраж прададзены; перавыданне кнігі магчыма (!) будзе, але час невядомы; кніга апынулася не такой запатрабаванай, і больш няма сэнсу яе дадрукоўваць. Такім чынам, не забываемся пра магчымасць насіць з сабой у торбачцы лёгкую і вытанчаную версію цэлай Нацыянальнай бібліятэкі.

Здавалася б, перавага на баку лічбы. Правільна, але часткова. Не варта забывацца, што заўсёды застануцца кнігі, выпуск якіх на паперы будзе неаспрэчным фактам: кнігі для маленькіх дзетак, мастацкія падарункавыя альбомы ці выданні з раздзела «Хобі». Пры гэтым у чытачоў-наватараў ёсць магчымасць рабіць пазнакі ў электронным тэксце, але чамусьці многія з нас лепш успрымаюць інфармацыю менавіта з паперы. Ды і ўсе мы памятаем непаўторнае адчуванне новай кнігі ў руках, якая яшчэ пахне свежай друкарскай фарбай...

Так што не сумнявайцеся: кніга пройдзе праз усе перашкоды, злёгку зменіць свой убор, але застанецца з намі назаўжды.

## На паліцы

# Пошук існасці

**Калі ў ролі літаратурнага крытыка выступае паэт ці празаік, то, пэўна ж, заўсёды асновай, фундаментам яго высноў, перакананняў з'яўляюцца суб'ектыўныя прыхільнасці, уласныя сімпатыі. Дрэнна гэта ці добра... Відаць, адказ трэба даваць у кожным выпадку асобна. Хто ж аказаўся ў полі зроку аўтара кнігі «Паміж духам і словам» і паэта Юрыя Сапажкова?**

Кастусь ЛАДУЦЬКА




*Сапожков, Ю. М. Меж духом и словом: критические статьи, диалоги, эссе / Юрий Сапожков. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 272 с.*

Васіль Гадулька, Наталля Казапалянская, Наталля Кучмель, Таццяна Шпартава, Алесь Разанаў, Аксана Спрынчан, Генадзь Казак, Іван Лагвіновіч, Леанід Галубовіч, Веніямін Блажэнны, Анатоль Аўруцін, Раіса Баравікова, Алег Ждан, Алесь Адамовіч, Любоў Турбіна... А яшчэ Юрый Міхайлавіч уключыў у кнігу нарыс-дыялог з Яўгенам Еўтушэнкам, артыкул «Урокі Ясеніна», гутарку з Джуліанам Барнсам (англійскі пісьменнік, лаўрэат двзюх Букераўскіх і Пулітцэраўскай прэмій, аўтар дзесяці раманаў, якія добра вядомы ў свеце), нарыс-успамін пра публіцыста Рамана Ярохіна (доўгія гады ён працаваў у аддзеле культуры газеты «Советская Белоруссия»)...

Кніга атрымалася дастаткова шматпланавая і пры гэтым не губляе сваёй цэласнасці. Сабраныя разам разнажанравыя матэрыялы сведчаць, што аўтар не толькі паэт і літаратурны крытык, а яшчэ і дасведчаны і таленавіты публіцыст, журналіст, якому ўласцівы пільны жыццёвы і мастацкі зрок. Гэта перш-наперш пацвярджаюць старонкі, прысвечаныя Я. Еўтушэнку, А. Макіну (Андрэй Ягоравіч — рускі і французскі пісьменнік, які жыве ў Францыі), Р. Ярохіну, А. Бясперстых. Тут выяўляецца і важкая рыса Юрыя Міхайлавіча як крытыка і як публіцыста ў аднолькавай ступені: яго нераўнадушша, асэнсаванне той высокай сардэчнай, душэўнай напружанасці, што рухае людзьмі, якія працуюць са словам.

Вось нарыс-партрэт «Рыцар пяра» — пра Рамана Ярохіна. Дазволю сабе працытаваць амаль што пачатак: «У яго (Ярохіна. — **К.Л.**) быў закон рэдактарскай этыкі: чытаць абсалютна ўсе кнігі, на якія заказваў рэцэнзіі ці тыя, што прыходзілі самі па сабе. Наведваць усе кінафільмы, спектаклі, канцэрты ці мастацкія выстаўкі, пра якія ішла размова ў артыкулах, нават калі пісалі іх вядомыя прафесіяналы, такія, напрыклад, як Таццяна Арлова, ці Дзіна Манаева, ці Барыс Бур'ян. У маёй немалой журналісцкай практыцы не даводзілася больш сустракаць загадчыка аддзела культуры ў часопісе ці газеце, які рабіў бы гэтак...» У дыялогу з Яўгенам Еўтушэнкам, які ўпрыгожыў бы старонкі любога перыядычнага выдання, Юрый Сапажкоў шмат увагі надае не столькі паэтычным, творчым аспектам, колькі рэчам, што звязаны з рэзанансам вакол паэтычнага радка. Хаця, відаць, я не зусім правы. У паэзіі ўсё мае значэнне: і само слова выказанае, і тое, як яно пасля і чым адгукнецца. Звяртаючыся да гісторыі выхаду ў свет паэмы «Брацкая ГЭС» у часопісе «Юность», да публікацыі «Мамы і нейтронная бомбы» ў «Нёмане», Ю. Сапажкоў вымалёўвае жывое аблічча паэта, нагадвае пра такія вартасці сапраўднай паэзіі, як грамадзянскасць, сугучча з часам. Аўтар кнігі звяртаецца і да вострых момантаў, не баіцца спрачацца са сваім суразмоўцам. Гэтым дыялог з Еўтушэнкам становіцца асабліва цікавым. Дарэчы, у размовы з рускім паэтам, якая адбылася ў Віцебску (там некалі, у 1995 годзе, была і прэзентацыя ўкладзенай Яўгенам Аляксандравічам анталогіі «Строфы века»), ёсць і працяг. Ю. Сапажкоў для выдавецтва «Літаратура і Мастацтва» ўклаў кнігу вершаў Еўтушэнкі «Серёжка ольховая». «...На прэзентацыю ў сталічным Доме кіно з Амерыкі прыехаў знакаміты аўтар. «Серёжка...» разляцелася па Мінску ў лічаныя дні».

Анатоль Бясперстых — збіральнік эпітэтаў да знакавых у жыцці і мастацтве слоў. Праўда, тыражы яго кніг, яго слоўнікаў не дужа ўражлівыя: «Любоў» — 30 экзэмпляраў, «Вера» — 10, «Пра любоў і не толькі» — 40... Здавалася б, мо і не варта пісаць у кнізе пра такога адмысловага калекцыянера. Але сваім кароткім тэкстам Юрый Міхайлавіч здолеў эмацыянальна і вельмі вобразна завастрыць увагу на вялікай і важнай справе. Філолаг, мала каму вядомы жыхар Полацка Анатоль Бясперстых робіць выключна важную для літаратуры, мовазнаўства, для чытача справу: ён падсумоўвае мастацкі вопыт папярэднікаў. Сабраныя разам, напрыклад, 3000 (тры тысячы!) эпітэтаў да слова «любоў» становяцца школай, вартай увагі ўсіх, хто займаецца, хто спрабуе займацца паэзіяй ці прозай. Шкада вось толькі, што кнігі такой — кнігі эпітэтаў да аднаго слова — шырокі чытач не мае.

Нераўнадушнасць, жаданне дабрацца да існасці кіруюць Ю. Сапажковым і ў размове пра кнігу І. Масляніцынай і М. Багадзяжа «Беларусь далетапісная». Крытык выходзіць за межы рэцэнзіі, разважае над тэмай «Вялесавай кнігі» — спрэчнай першакрыніцы, да якой часта звяртаюцца Ірына Масляніцына і Мікола Багадзяж. І піша пра плён іх працы Юрый Міхайлавіч з цеплынёй, як удзячны чытач, які адкрыў нешта новае: «У Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа кожнае апавяданне пра нашых прашчураў чаму-небудзь ды вучыць...» Вось і кніга Ю. Сапажкова «Паміж духам і словам» — з кніг, якія вучаць. У тым ліку — і зацікаўленаму стаўленню да зробленага і здзейсненага калегамі і папярэднікамі па творчым цэху.

## Прэзентацыя

# З гісторыі зброі

**У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь сёння прайшла прэзентацыя новай навукова-папулярнай кнігі кандыдата гістарычных навук Мікалая Плавінскага «Узбраенне беларускіх земляў X — XIII стагоддзяў», а таксама кніжнай серыі, прысвечанай ваеннай гісторыі Беларусі.**

Марына ВЕСЯЛУХА

У прэзентаваным выданні ў навукова-папулярнай форме апісваюцца асноўныя катэгорыі старажытнарускага ўзбраення, паходжанне, час і асаблівасці выкарыстання пэўных відаў наступальнай зброі. Адметна і тое, што тэкст суправаджаецца шматлікімі ілюстрацыямі, высакаякаснымі прамалёўкамі, каляровымі фотаздымкамі найцікавейшых знаходак з тэрыторыі Беларусі.

Як падкрэсліў Мікалай Плавінскі, выданне разлічана на шырокае кола чытачоў — ад старэйшых школьнікаў да студэнтаў-гісторыкаў і навукоўцаў. Яшчэ больш шырокай патэнцыяльную аўдыторыю кнігі робіць той факт, што ў нашай краіне выдадзена няшмат работ, прысвечаных ваеннай гісторыі. Натуральна, тэма ўзбраення досыць вузкая, але сёння працуе нямала клубаў рэканструкцыі, шмат людзей, зацікаўленых гэтым аспектам нашай мінуўшчыны. Як распавёў аўтар, чытачом выдання можа стаць і жыхар Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева.




У новай выдавецкай серыі ўжо рыхтуецца кніга Зміцера Мацвейчыка, прысвечаная паўстанню 1863 года на Беларусі. У цэнтры ўвагі аўтараў наступных кніг апынуцца Паўночная вайна і Клецкая бітва.

# Преступления и наказания

**Денис МАРТИНОВИЧ**

Композитор и певец Игорь Корнелюк рано уехал из родного Бреста. Возможно, об этом городе он вспоминал, когда писал песню для фильма «Бандитский Петербург», в которой есть такие слова: «Ночь и тишина, данная на век, // Дождь, а может быть, падает снег, // Всё равно, бесконечной надеждой согрет, // Я вдали вижу город, которого нет...» Но успех нашего соотечественника был бы невозможен без творчества Андрея Константинова. Именно он придумал историю, которая легла в основу фильма.

Писатель, сценарист, публицист, Константинов закончил Восточный факультет Ленинградского университета, работал военным переводчиком в Южном Йемене и Ливии. Уволившись после распада СССР из армии, Константинов занялся журналистикой. Темой его исследований стал криминальный мир. Уже в 1993 году в Швеции вышла его первая книга «Преступный мир России». Российскому читателю Константинов стал известен в следующем году, когда на книжных прилавках появились «Бандитский Петербург» и «Адвокат». С 1998 года он является генеральным директором и главным редактором информационно-аналитического Агентства журналистских расследований, куда входят несколько газет, журнал «Город-812» и интернет-портал «Фонтанка.Ру».

Одновременно Константинов продолжает работать над новыми книгами. Последним по времени стало издание **«Бандитская Россия»**. Как утверждает автор, «Русь славилась разбойниками всегда. В самом этом слове заложена некая романтика, неслучайно о разбойниках сложено столько легенд и песен». Поэтому повествование ведётся со времён Киевской Руси. Разумеется, отдельные разделы посвящены Московскому княжеству и царству, Российской империи. Не обойдён вниманием и Советский Союз. Но в центре всё же современные российские реалии. Читатели становятся свидетелями эпохи, которую потом назовут «лихие 90-е». Дерзкие ограбления, леденящие душу преступления, воровские сходки, а также примеры сотрудничества российской власти и криминальных авторитетов. Короче говоря, сплошная «Бригада».







# Любовь железного канцлера

**Данила АРТИМОВИЧ**

Личность Отто фон Бисмарка является одной из ключевых для понимания европейской истории второй половины XIX века. Вплоть до 1860-х годов Германия не существовала как единое государство. На её современной территории располагался ряд крупных и мелких государственных образований, самым могущественным из которых была Пруссия. Став её канцлером в 1862 году, Бисмарк меньше чем за десять лет создал мощную Германскую империю, которую позднее стали называть Вторым рейхом (первый относится к временам императора Фридриха Барбароссы).

Одним из лучших примеров русского исторического романа, в котором была представлена личность Бисмарка, долгое время была книга «Битва железных канцлеров» Валентина Пикуля. Центральным в ней является противостояние между Бисмарком и канцлером Российской империи Александром Горчаковым, каждый из которых стремился восстановить главенствующее положение своих стран в Европе.

Недавно Отто фон Бисмарк стал героем нового исторического романа. Его автор, Эдуард Тополь, родился в Баку, работал в ряде советских газет. В 1978 году эмигрировал в США. Своей популярности он во многом обязан романам «Журналист для Брежнева» (1981) и «Красная площадь» (1983), написанным совместно с Фридрихом Незнанским. В них автор представил свою версию отношений внутри советской партийной элиты.

Новая книга Тополя «Бисмарк. Русская любовь железного канцлера» посвящена истории любви канцлера и русской княгини Екатерины Орловой-Трубецкой. Как утверждают исследователи, отношения между ними можно охарактеризовать лишь как кратковременное увлечение, курортный роман, случившийся во время отдыха во французском Биаррице. Впрочем, кто слушает историков, когда разговор идёт о любви? «Бисмарк входит в купе. Кэтти смотрит на него... Бисмарк запирает купе и поворачивается к ней, <...> опускается перед ней на колени. Снаружи яростный дождь бьёт в окно купе, летящего в рай».

# Детективы спасут литературу?

**Данила АРТИМОВИЧ**

Вадим Елфимов — не последний человек в белорусской элите. Уроженец Кишинёва, он закончил факультет международных отношений Киевского университета, защитил кандидатскую диссертацию. Доцент кафедры политических наук Академии управления при Президенте Республики Беларусь. А также ведущий отечественных телепередач («Траектория», «Вокруг планеты»), которая победила в первом национальном конкурсе «Телевершина», и «Большая политика»).

При этом Елфимов с детства мечтал стать писателем. По его собственному утверждению, в детстве он написал рассказ и направил в известный журнал «Молодая гвардия». «В ответ прислали довольно благожелательную рецензию, — признавался Елфимов. — Правда, рассказ не напечатали, но я не обиделся, решил, как мне и советовали, больше работать над собой». В более зрелом возрасте он начал писать детективы.




В своих рассуждениях Вадим Елфимов отталкивается от мнения Бернарда Шоу, который предрекал: детективы убьют литературу. «Однако сейчас они — единственное, что ещё массово читается: так, может, они и спасут литературу?» Несколько детективов автора было опубликовано в России под псевдонимом Вадим Вершинин. Роман **«Серьёзные люди так не делают»** вышел под настоящей фамилией автора в серии «Современный детектив».

...И бронированный «Мерседес» от смерти не спасёт, если она ходит по пятам. Медиамагнат Марков по прозвищу Старик железной рукой направил прессой, безжалостно уничтожая конкурентов. Казалось, что у него просто не осталось серьёзных врагов. Кто же тогда направил на Маркова руку смерти, с такой лёгкостью проломившей хвалёную немецкую броню? Все думают, что гибель Старика — это простая случайность, рок, нависший над медиаимперией. Но известный журналист Андрей Соболин всё же разглядел лицо этого «фатума» — страшного урода с пистолетом в руке. Он опередил убийцу всего на мгновение и остался жив. Теперь ему предстоит спасти юную Настю Маркову, единственную наследницу проклятой империи...

# В интерьерах «золотой Вены»

**Максим БАРЫШНИКОВ**

Рубеж XIX — XX веков стал поистине золотым для Вены, чьё население достигло двух миллионов человек. Столица Австро-Венгерской империи, занимавшей территорию современных Австрии, Венгрии, Чехии, Словакии, Румынии и республик бывшей Югославии, являлась общепризнанным центром культуры и искусства. Мировой славой пользовались Венский университет и Академия наук. Это «золотой век оперетты», когда творил Иоганн Штраус-сын.

Писатель Джон Сидни Джонс переносит нас в 1898 год. Внезапно «Золотая Вена» становится подмостками, на которых таинственный убийца разыгрывает кровавую драму... Полиция находит всё новые и новые изуродованные трупы в парке развлечений Пратер. Служители закона пытаются ухватиться за любую ниточку — и ею становится связь одной из убитых с великим Густавом Климтом. Полиция готова взяться за эту версию: скандальный художник богемы отлично подходит на роль преступника. Однако у Климта есть друзья. И среди них — блестящий адвокат Карл Вертен и легендарный криминалист Ганс Гросс. Они начинают собственное расследование, чтобы не просто оправдать художника, но и найти настоящего убийцу... Об этом повествует роман **«Пустое зеркало»**.

Во втором произведении, **«Реквием по Вене»**, кто-то пытается убить великого композитора и дирижёра Густава Малера. Хуже того, Малер, возможно, не первый гений, с которым стремится разделаться неизвестный преступник. Полиция демонстрирует полное бессилие, и невеста композитора, светская красавица Альма Шиндлер, обращается к Вертену и Гроссу с просьбой защитить жениха. С учётом того, что Малер прожил до 1911 года, дело должно закончиться счастливо. Но каким образом?




# Как лениться и стать миллионером

**Денис МАРТИНОВИЧ**

По мнению большинства людей, успех требует невероятных усилий и жертв. Марк Фишер считает, что можно получать больше, работая меньше. Мало того, можно удвоить или даже утроить своё состояние, ничем не жертвуя и получая исключительно удовольствие.

Фишер родился в канадском Монреале, изучал философию и литературу, несколько лет работал в издательской сфере. Всемирную известность он приобрёл после выхода в свет философской притчи «Новоиспечённый миллионер». Свыше двух миллионов экземпляров этой книги было продано более чем в 30 странах мира, включая Японию, Германию, Италию, Испанию, Россию, Великобританию, Норвегию, Швецию, Китай, Грецию, Корею и др. Фишер является автором многочисленных бестселлеров — романов, эссе, сценариев фильмов, в том числе книг «Секрет миллионера» и «Игрок в гольф и миллионер».




Новая книга — **«Ленивый миллионер»**. Эпиграфом к ней являются слова Леонардо да Винчи: «Достигаютбольшего,когдаработают меньше». В первой главе М. Фишер приводит шутливые слова немецкого генерала фон Манштейна о нескольких типах немецких офицеров. К четвёртому из них последний отнёс «умных и ленивых офицеров», они... должны занимать руководящие посты.

Канадский писатель предлагает практические советы по достижению успеха, которые «спрятаны» уже в названиях глав. Таким образом, ленивый миллионер «настроен позитивно», «всегда старается платить по минимуму», «экономит без ущерба для себя», «живёт с размахом, не тратя деньги» и «доверяет своей интуиции». Попробуйте, идеи Фишера работают!

# Янка Брыль піша да Тэлесфора Позьняка...

**Вячаслаў РАГОЙША**

Напрыканцы мінулага года вядомаму польскаму беларусісту з Вроцлава, доктару габілітаванаму, прафесару Тэлесфору Позьняку споўнілася 80 гадоў. «ЛіМ» адзначыў гэты юбілей артыкулам «Славіст, народжаны Беларуссю» (№ 49, 7 снежня 2012 г.), за што, дарэчы, у спецыяльна дасланым лісце юбіляр сардэчна падзякаваў мне як аўтару артыкула, а таксама «ўсім паважаным землякам і персанальна — шаноўнай газеце».

У сваім артыкуле я згадваў пра прыезд Тэлесфора Позьняка ў 1972 г. у Мінск на канферэнцыю МАПРЯЛ (Міжнародная асацыяцыя выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры), сустрэчу яго з Янкам Брылём і Алесем Адамовічам. У ліставанні з шаноўным прафесарам я, зразумела, не мог не пацікавіцца, ці не знаходзіцца ў яго сямейным архіве лісты гэтых пісьменнікаў. Аказалася, захаваліся два лісты і паштоўка ад нашага слыннага празаіка, класіка новай беларускай літаратуры Івана Антонавіча Брыля. З дазволу адрасата і з адпаведным каментарыем прапануем вашай увазе.

**8.IX.72**

*Паважаны таварыш Позьняк!*

*Прашу прабачэння, што на Ваш мілы ліст адказваю з такім спазненнем. У сваё апраўданне скажу, што доўгі час не быў дома, — прайшоў па Енісеі ад Краснаярска аж за палярны круг, у Дудзінку, затым цягніком «самай паўночнай у свеце» чыгункі ў славуты Нарыльск, тады верталётам у тундру... Экзотыка! Пасля ездзіў з жонкай і сынам у Калінінград і іншыя мясціны былой Усходняй Прусіі.*

*Днямі мой друг Алесь Адамовіч паслаў Вам сваю кніжку пра Кузьму Чорнага, дзе ёсць сёе-тое пра Вашага (і нашага) любімага Дастаеўскага. Думаю, што Вы ўжо атрымалі яе.*

*Вы дарэмна просіце за сваю беларускую мову прабачэння, — яна зусім прыстойная. Трэба яшчэ больш чытаць нашай літаратуры, часцей бываць у родных мясцінах. Калі Вас што цікавіць з нашай літаратуры — напішыце мне, і я з прыемнасцю пастараюся быць карысным для Вас. Дружба павінна быць дзелавой і карыснай.*

*Я таксама з прыемнасцю ўспамінаю нашу мінскую сустрэчу, нашу сяброўскую спрэчку вакол Талстога і Дастаеўскага. Дай бог нам часцей так спрачацца!*

*Магчыма, у гэтым годзе мне давядзецца трапіць у Польшчу — па запрашэнню «Лодзінскага выдавецтва» (якое выдала летась кнігу маіх апавяданняў). А то, чаго добрага, і ва Ўроцлаў удасца заглянуць. Казаў жа наш Якуб Колас: «Хадзіў раз дзядзька наш у Прусы. Куды не трапяць беларусы!..» Рады буду пабачыцца з Вамі, дарагі Тэлесфар.*

*А пакуль што — ад душы жадаю ўсяго найлепшага.*

*Янка Брыль*

**15.I.76**

*Дарагі пане Тэлесфар!*

*Сардэчна дзякую за сяброўскія пажаданні і шчыра жадаю Вам усяго найлепшага!*

*А добра так — Пан піша да мяне пабеларуску, а я на сваёй «крыху старасвецкай» — як пісаў пра тое адзін з варшаўскіх журналістаў — па-польску да Пана.*

*Я ахвотна вітаў бы Пана яшчэ і яшчэ раз у Мінску, бо надта міла ўспамінаю нашу сустрэчу і дыскусію «Талстой—Дастаеўскі»...*

*На разе — вітанне, павага і сімпатыя!*

*Янка Брыль*

(Арыгінал гэтага ліста напісаны па-польску. Пераклад мой. — **В. Р.**)

**19.I.82**

*Паважаны друža!*

*Толькі ўчора атрымаў Ваша мілае пісьмо з добрымі пажаданнямі. Шчыра дзякую і, у сваю чаргу, жадаю Вам і Вашым блізкім усяго найлепшага.*

*Янка Брыль*

Зразумела, перш чым прапаноўваць газеце апублікаваць гэтыя лісты, мне захацелася асобныя моманты ў іх удакладніць. У прыватнасці, пра якую «сяброўскую спрэчку вакол Талстога і Дастаеўскага» Іван Антонавіч успамінае? І вось што высветлілася. Тэлесфор Позьняк на канферэнцыі МАПРЯЛ выступаў з дакладам «Дастаеўскі ў рускай савецкай прозе». Даклад выклікаў даволі ажыўленую дыскусію, і не толькі на самой канферэнцыі, але і пры сустрэчы дакладчыка ў нумары гасцініцы «Мінск» з Алесем Адамовічам і Янкам Брылём, апантанымі прыхільнікамі творчасці і асобы Льва Талстога. У тыя дні, як згадаў у сваім лісце да мяне Позьняк, Янка Брыль, Алесь Адамовіч і Уладзімір Калеснік актыўна збіралі матэрыял для сваёй кніжкі «Я — з вогненнай вёскі...», толькі што вярнуліся з вандроўкі. Таму адразу «разгаварыліся пра страшны лёс жыхароў спаленых вёсак. Я ўспомніў, што нямала і маіх сваякоў з Вілейшчыны загінула ў такіх самых пакутах. Між іншым, так згарэла ўся сям'я, разам з малымі дзецьмі, майго дзядзькі Адольфа Гасінскага з засценка Даманова, што паміж Вілейкай і Маладзечнам, сям'я дзядзькі Яна Матошкі — лесніка з Ільі, дзядзька Юльян Лабачэўскі з вёскі Капішча, што над Вяллёй, і інш.» І далей Тэлесфор Позьняк прыгадвае: «Мы паставілі старое як свет пытанне: адкуль зло у свеце, у чалавеку? Я ўсё настойваў на тым, што на гэта пытанне без Дастаеўскага здавальняючага адказу ніхто не можа даць. Што, маўляў, тут не толькі трэба ўлічваць сацыяльныя прычыны, але ж і псіхалагічныя, ідэйныя і шмат іншых». У той жа час «Янка Брыль націскаў на здаровы, мажорны лейтматыў талстоўскага светаўспрымання, без хворага садамазахізму аўтара «Братоў Карамазавых». Як вядома, піша Позьняк, «нешта з атмасферы Дастаеўскага трапіла ў некаторыя каментары дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі...». Аб гэтым хіба думаў Брыль, калі ўспамінаў у лісце нашы мінскія дыскусіі».

Да гэтых згадак дадаць трэба хіба што адзін невялікі штрых: выдавецкую (унутраную, закрытую) рэцэнзію на польскі пераклад «Я з вогненнай вёскі...» для выдавецтва PAX (кніга выйшла ў 1978 годзе ў перакладзе М. Канановіча і Е. Літвінюка) пісаў не хто іншы, як той жа Тэлесфор Позьняк.

Другое, што мяне цікавіла: ці давялося хаця б яшчэ раз сустрэцца польскаму прафесару з Янкам Брылём? Іван Антонавіч у сваім лісце паведамляў пра магчымасць такой сустрэчы ў Польшчы, спадзяваўся, што, «чаго добрага, і ва Ўроцлаў удасца заглянуць», у горад, дзе жыў яго адрасат. Аказваецца, яны сапраўды сустрэліся. Але не ў Вроцлаве, а — праз некалькі год пасля першай, мінскай, сустрэчы — у горадзе Зялёна Гура, на захадзе Польшчы. Савецкую пісьменніцкую дэлегацыю, у склад якой уваходзіў і Янка Брыль і якой апекаваўся Саюз польскіх пісьменнікаў, павезлі тады ў гэты горад. Там якраз праходзіў фестываль савецкай песні, а паралельна ў мясцовым педінстытуце (пазней ён быў пераўтвораны ва ўніверсітэт) — навуковы сімпозіум. Як згадаў Позьняк, Янка Брыль прысутнічаў на яго дакладзе, «сядзеў у першым радзе, апладзіраваў. Я ж гаварыў на тэму «Янка Купала і польская культура». Лейтматывам свайго выступлення я тады ўзяў верш паэта «Хто ты гэткі?» — як вельмі глыбокі перыфраз польскага верша Уладыслава Бэлзы «Kto ty jesteś?» Пасля даклада ў кароткай гутарцы Янка Брыль успомніў нашу мінскую сустрэчу. Праз нейкі час я атрымаў ад яго пару лістоў, даслаў ён мне адну ці дзве кніжкі сваіх мініяцюр з даравальнымі надпісамі, якія я перадаў у бібліятэку нашага Інстытута славянскай філалогіі... На жаль, Янка Брыль у Вроцлаве не быў».

І на заканчэнне — адно выказванне як падсумаванне аўтакаментарыя Тэлесфора Позьняка да лістоў Янкі Брыля. Заканчваючы нядаўні ліст да мяне, ён напісаў: «Пазнаёміўшыся з Янкам Брылём, чытаючы, а пасля і слухаючы яго па радыё, я яшчэ раз упэўніўся ў высокай пісьменніцкай культуры гэтага творцы, а таксама ў вялікай ролі беларускай літаратуры ў духоўным адраджэнні беларускага народа».

*100 год кнізе*



# Абразкі з пылу сонца

**На асобніку, што захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, — пячатка Latvijas Valsts Biblioteka (Латвійская нацыянальная бібіятэка), вокладка пераклееная, лісты пажаўцелі... Напісанай беларускай лацінкай кнізе, што была выдадзена суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» і надрукавана ў Пецярбургу, у друкарні К. Пянткоўскага, сёлета спаўняецца 100 год. Гэта зборнік лірычных мініяцюр — імпрэсій Змітрака Бядулі «Abrazki».**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Кніга, ды і сам жанр абразкоў, з'яўляюцца па сутнасці маніфестам імпрэсіянізму ў беларускай літаратуры. Пагадзіцеся, гучыць парадаксальна: вядома, што імпрэсіянізм не склаўся як асобны літаратурны кірунак, некаторыя яго рысы знайшлі адлюстраванне ў натуралізме і сімвалізме. Не цалкам ён афарміўся і ў музыцы, стаўшы адной з плыняў музычнага мадэрну. Дык вось, парадокс у тым, што ў беларускай літаратуры, як і ў музыцы, імпрэсіянізм стаў адной з мастацкіх стратэгій, якой карысталіся мадэрністы, бо паводле Антона Луцкевіча, мадэрністамі можна смела назваць нашых неарамантыкаў. Змітрок Бядуля — адзін з іх. Але кніга «Абразкі» хавае яшчэ некалькі парадоксаў.

***Парадокс 1.*** Мадэрновую літаратуру цалкам зразумець можа толькі добра падрыхтаваны чытач, асабліва калі гаворка ідзе пра прозу. У імпрэсіянізме такі разлік на актыўную зваротную рэакцыю яшчэ большы: аўтар спадзяецца, што чытач ведае, разумее, пазнае настрой, вобраз і ў сваім уяўленні сам усё дадумае. Цікавы момант: абразкі Бядулі пасля выдання асобнай кнігай былі цалкам перадрукаваныя ў альманаху «Маладая Беларусь» ужо ў 1914 годзе. Значыць, яны выклікалі шчырую цікавасць чытача. На фоне агульнай зацікаўленасці паэзіяй і прозай, набліжанай да фальклору, такі інтарэс выглядае досыць дзіўна. Аднак усяму ёсць тлумачэнне, яго можна знайсці і ў лёсе аўтара, і ў яго літаратурным крэда. Так, Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» пра Змітрака Бядулю піша: «Жыў ён з сялянамі-рабочымі на ўлонні прыроды і спаў з вартаўнікамі ў будцы на вадзе ці на беразе пры вогнішчы і тут наслухаўся беларускіх казак, песень, нагледзеўся чароўных абразкоў беларускае прыроды і добра пазнаёміўся з жыццём-быццём селяніна». Ды і сам аўтар сцвярджае: «Кожнае слова маё — шчыры ўспамін убогай вёскі. Кожны радок маёй песні — малюнак перажыванняў гаротнага простага беларуса».

Адметнасць прозы З. Бядулі і ў мове, ие таксама заўважае М. Гарэцкі: «Уклад мовы тут — стылізаваны, вобразы — беларускія, але таксама агорнутыя наўмысной стылізаванасцю і паказаныя быццам праз нейкае небеларускае шкло». Вось так і склалася мазаіка поспеху: шчырае суперажыванне беларусам, стылізаваная мова, знаёмыя тэмы і вобразы, а яшчэ — неадназначнае сцвярджэнне пастулата «простыя — значыць добрыя», як, напрыклад, у абразку «Ля ваеннай гары»: «Простыя вельмі людзі яны: вераць нават у нячыстую сілу ды, шчыра молячыся, незвычайнага цуда чакаюць... Добрыя людзі яны! Апошні кавалак хлеба аддаюць жабраку на дарозе...» Пра беларусаў жа!

***Парадокс 2.*** У бядулеўскіх абразках легенды, паданні дзіўным чынам пераплятаюцца з сумнай тагачаснай рэчаіснасцю, ды настолькі дзіўна, што па сутнасці цалкам адмоўныя вобразы ператвараюцца ў цалкам станоўчыя. Да прыкладу, у абразку «Як памру...»: «Як памру, хай асінавы кол у курган мой доўбняй дубовай загоняць, бо душа мая людзям па вёсках супакою не дасць...» Адразу прыгадваюцца легенды пра вампіраў, пярэваратняў і іншую нечысць, але аўтар смела гуляе з гэтым страшным вобразам і піша далей: «...і душа мая не супакоіцца... Пакуль людзі святла сонца не ўбачуць...» Зразумела, што такога добрага духа-абаронцу не трэба баяцца, і кол у яго магілу ніхто забіваць не будзе.

Дарэчы, вернемся яшчэ раз да неарамантызму. Ці можна ў адным сказе літаратурнага твора змясціць усе рысы гэтага кірунку? На першы погляд, складана. Але З. Бядуля, напэўна, сам таго не ведаючы, выдатна справіўся з гэтай задачай. Толькі паслухайце: «А можа і праўда, што ў пажарышчы тваіх ясных вачэй палаюць замчышчы нейкіх старасвецкіх казак, каторыя варожаць салодкім шопатам сваім?» Выдатна!

***Парадокс 3.*** Зноў жа звязаны з залішняй рамантычнасцю і, я б нават сказала, сентыментальнасцю творчасці Змітрака Бядулі. У гэтым яго часам абвінавачваюць даследчыкі. Аднак у сваіх абразках ён паказвае не толькі радасці каханя, але і яго адмоўны бок. Так і піша пра гэтае пачуццё: «не бяжы за кветкай сіненькай, што на дрыгве расце...», бо тады «толькі жалейку слухаць ахвотнікам станеш, на зоркі будзеш глядзець, а ў душы будзе боль і ў вачах горкія слёзы». Лірычны герой нават узводзіць гэткае быццё рамантыкам у ранг недахопу ўласнага характару: «Ці я вінават, што неяк люблю пазіраць, як жудасны лес моўчкі калышацца пад зззяннем зорак паўночных?..» Але потым ён нават з большым запалам зноў дае волю ўсім рамантычным вобразам і сцвярджае: «Чалавеча! Шкада мне цябе...», бо не ўсе могуць бачыць прыгажосць.

Радасць, роспач, сум, смутак, расчараванне, надзея... Гэтыя пачуцці проста на вачах змяняюць адно аднаго, у абразках няма нічога дакладнага, зразумелага. Напэўна, у гэтым і заключаецца прыцягальнасць абразкоў З. Бядулі. А таксама — у надзеі на лепшае, веры ў казку, бо, як піша сам аўтар, «толькі песні маюць уладарнасць над жыццём... Толькі дзеля казак трэба жыць на свеце...»

# Салідная біяграфія

**Дзяржаўнаму камернаму аркестру Рэспублікі Беларусь споўнілася 45 год. З нагоды юбілею напрыканцы лютага ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся Міжнародны гала-канцэрт «Чатыры дырыжоры на адной сцэне». Напярэдадні святочнага мерапрыемства прайшла прэс-канферэнцыя — пра мінулае, сённяшні дзень і перспектывы далейшага развіцця аркестра.**

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Мінскі Камерны аркестр, цяпер Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, быў заснаваны ў 1968 годзе вядомым музыкантам-арганістам, кампазітарам і дырыжорам А. Янчанкам, з 1969 па 1994 год яго ўзначальваў выпускнік Беларускай і Ленінградскай кансерваторый Ю. Цырук. З іменем гэтага музыканта звязаны вышэйшыя дасягненні творчага калектыву. Выступленне аркестра на Міжнародным фестывалі камерных аркестраў у Вільнюсе ў 1975 годзе мела вялікі поспех, ён быў прызнаны адным з лепшых калектываў Савецкага Саюза, стаў лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу прафесійных калектываў у 1977 годзе, выступаў з канцэртамі ў Вялікай зале Кансерваторыі ў Маскве, філармоніі Санкт-Пецярбурга, у сталіцах рэспублік СССР. Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь першы сярод прафесійных калектываў Беларусі ў 1977 годзе выехаў на гастролі ў ЧССР, Венгрыю, Балгарыю, гастраліраваў па Германіі, Аўстрыі, Нарвегіі і іншых краінах Еўропы. Такія вялікія музыканты свету, як С. Рыхтэр, Э. Вірсаладзэ, Ю. Башмет і інш., выступалі з аркестрам, у розныя часы ім кіравалі І. Галаўчын, А. Паляничка, І. Э. Райль, М. Кац, Д. Зубаў, В. Собалеў, П. Вандзілоўскі. Цяпер галоўным дырыжорам і мастацкім кіраўніком з'яўляецца заслужаны артыст Расіі Яўген Бушкоў.

Трэба зазначыць, што музыканты, запрошаныя госці, кіраўніцтва Белдзяржфілармоніі, а таксама прадстаўнікі генеральнага спонсара мерапрыемства ААТ «БПС-Сбербанк» зрабілі ўсё магчымае, каб прыгожа і з годнасцю адзначыць юбілей, тым самым нагадаўшы слухачам: калектыў не збіраецца адпачываць на лаўрах, наперадзе — плённая праца і новыя вяршыні. Галоўным падарункам прыхільнікам, зразумела, стаў святочны Міжнародны гала-канцэрт «Чатыры дырыжоры на адной сцэне», удзел у якім узялі маэстра «з розных канцоў Еўропы»: скрыпач, дырыжор, педагог, заснавальнік і нязменны кіраўнік Літоўскага камернага аркестра Саўлюс Сандэцкіс (Літва), дырыжор і скрыпач Сімфанічнага аркестра Нідэрландскага радыё Валянцін Жук (Нідэрланды), дырыжор і дырэктар аркестра і хору Універсітэта г. Вітэна Інга Эрнст Райль (Германія) і расійскі скрыпач і дырыжор, заслужаны артыст Расіі, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь Яўген Бушкоў (Расія). На ўрачыстасці была прадстаўлена сусветная прэм'ера «Беларускага канцэрта» для цымбалаў і камернага аркестра Міхаіла Бронера, напісанага ў знак пашаны і як прысвячэнне Дзяржаўнаму камернаму аркестру Рэспублікі Беларусь і яго галоўнаму дырыжору. Саліравала на цымбалах лаўрэат шматлікіх конкурсаў, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Вераніка Прадзед.

— Я бязмежна шчаслівы, што мая крыху вар'яцкая ідэя аб'яднаць на адной сцэне з камерным аркестрам дырыжораў (не ўлічваючы мяне) з трох краін спраўдзілася, — прызнаўся Я. Бушкоў. — Ідэя стварэння «Беларускага канцэрта» таксама была падказана мной. Бронер напісаў вялікую колькасць твораў для ўсіх саліруючых інструментаў, на гэты раз не пакінуў па-за ўвагай і такі цудоўны беларускі інструмент, як цымбалы. Для мяне гэта вельмі сімвалічна, бо я музыкант з Расіі, які працуе ў Беларусі.

В. Прадзед, у сваю чаргу, зазначыла, што дадзены канцэрт — падзея сусветнага маштабу для Беларусі, своеасаблівы штуршок для развіцця цымбалаў як сур'ёзнага інструмента, бо яго будучыня — толькі ў арыгінальным рэпертуары.

Шмат якія з ідэй мастацкага кіраўніка аркестра спраўдзіліся, але гэта далёка не ўвесь спектр дзейнасці Я. Бушкова як арганізатара: у сакавіку распачаўся



*Падчас юбілейнага канцэрта. Дырыжыруе Я. Бушкоў.*

канцэртны тур аркестра «Музычныя сады краіны Беларусь» па гарадах Беларусі. Пачаць вырашылі з Гомеля. Галоўная мэта новага творчага праекта — зрабіць музычную класіку зразумелай і блізкай, даступнай і неабходнай там, дзе жывое гучанне класічнай музыкі з'яўляецца рэдкасцю.

Таксама штогод напрыканцы лета на тэрыторыі самай музычнай рэзідэнцыі рэспублікі — у нясвіжскім Палацы Радзівілаў — плануецца правядзенне свята «Жніво Нясвіжа», невялікага фестывалю камерных аркестраў, падчас якога ў беларускага слухача будзе магчымасць пазнаёміцца з багаццем камернага рэпертуару, параўнаць узровень айчыннага аркестра з аркестрамі іншых краін. Я. Бушкоў называе праект крыху авантурным, бо, хаця і існуе адчувальная фінансавая падтрымка з боку генеральнага спонсара, грошай усё адно не хапае. Пакуль усё на стадыі перамоў. Аднак ідэя ёсць, і калі яна не спраўдзіцца ў гэтым годзе, то ў наступным — дакладна.

На святочным гала-канцэрце быў прэзентаваны не толькі новы музычны твор, але і альбом-кніга, што ахоплівае гісторыю Дзяржаўнага камернага аркестра з моманту яго стварэння. Такім чынам была пастаўлена кропка ў шасцігадовай працы Лючыі Ластаўкі, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, музыканта-выканаўцы першага складу камернага аркестра, якая ўвесь гэты час збірала біяграфіі салістаў і фотаматэрыялы.

Атрымаў аркестр падарунак і ад бясспрэчнай гістарычнай адметнасці і гонару літоўскай нацыі С. Сандэцкіса: знакаміты дырыжор прэзентаваў калектыву рукапіс першага твора А. Янчанкі, напісанага для Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі.

— 45 год — салідная біяграфія творчага калектыву, — зазначыў С. Сандэцкіс. — Калі святкуецца 100-годдзе, стваральнікаў ужо няма ў жывых, таму складана сказаць, што праўда, а што выдумка. Але сёння я магу пацвердзіць, што перада мной людзі, якія шмат працавалі, каб атрымаўся добры вынік. Роўна 45 год таму 18 красавіка я першы раз выступаў у Мінску ў гэтай зале са сваім аркестрам. Значыць, маймо творчаму сяброўству з вамі столькі ж год, колькі і любімаму аркестру. У Мінску былі ўсе магчымасці для стварэння калектыву такога кшталту: фінансавая падтрымка, добрая школа струннікаў, музыканты — нашы асноўныя сапернікі, з якімі мы «біліся» на ўсесаюзных конкурсах. Калі А. Янчанка напісаў для свайго аркестра першы твор, на жаль, не атрымалася выканаць яго з уласным калектывам. Твор быў перададзены мне, і ў 1968 годзе мы сыгралі яго ў Вільнюсе Літоўскім камерным аркестрам на фестывалі арганнай музыкі. Саліраваў сам А. Янчанка. Потым ужо ён неаднаразова выконваў твор з беларускім камерным аркестрам, мы нават запісалі пласцінку на «Мелодыі». Гэты кантэкст сяброўства ў музыцыраванні, у якім раслі мы і нашыя аркестры, адчуваецца і сёння. Толькі вельмі б хацелася, каб людзі не забываліся на сваё карані, на тых, хто распачаў гэту вялікую справу. Моладзь нярэдка лічыць, што да іх была толькі разруха, але гэта ж не так! Калі я наведваю Белдзяржфілармонію і бачу партрэты А. Янчанкі, Ю. Цырука, то разумею: распачатая імі справа жыве, іх творчую спадчыну не забудуць.

# Горка-салодкія цукеркі

**Ці можа чалавек разбураць стэрэатыпы, рабіць тое, чаго ён сапраўды жадае? Ці заўсёды свабодны? Такімі філасофскімі пытаннямі прасякнуты п'есы італьянскага рэжысёра Альда Нікалаі «Крыху пяшчоты» і «Зерне рысу». Цікава, што на беларускай сцэне з'явіліся адразу дзве пастаноўкі: «Крыху пяшчоты» (У. Савіцкі) у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача і «Кар'ера Чэлесціна» (М. Абрамаў) па п'есе «Зерне рысу» ў Беларускім дзяржаўным тэатры.**

**Паліна ПЛАТАВА**

Сюжэты п'ес даволі трагічныя. У спектаклі «Крыху пяшчоты» двум заканым старым, Нэнілу (Б. Барысёнак) і Мімі (Н. Якаўлева), не дазваляюць быць шчаслівымі ўласныя дзеці, якія не толькі саслалі сваіх бацькоў у дом састарэлых, дык яшчэ і забараняюць ім ажаніцца! У «Кар'еры Чэлесціна» галоўнага героя (К. Міхаленка) пазбаўляе шчасця таксама сям'я.

Такія крайнасці вельмі ўзрушваюць. Калі б у герояў хацелі забраць шчасце чужыя людзі, ворагі... Але ж родныя! Незвычайна. І дзіўна. Як і тое, што ў доме састарэлых ладзяць карнавал, а галоўная мара Чэлесціна — стаць не артыстам, не зоркай, а простым рыбаком. Нейкі абсурд, які робіць сітуацыі максімальна трагічнымі. У гэтым — моц італьянскага драматурга. Ён перавярнуў усё з ног на галаву: Нэніла, Мімі, Чэлесціна — сапраўдных вар'ятаў — зрабіў адзінымі здаровымі ў свеце хворых. Прычым зрабіў, смеючыся: у спектаклях адчуваецца неверагодная іронія, якая аднак, выяўляецца ў дробных дэталях. У ваяўнічых і адначасова баязлівых паводзінах старой П'еры (В. Кавалерава), спробах Матэі (Н. Анішчанка) спакусіць Чэлесціна. Гэта надае пастаноўкам вытанчанасць, якая праяўляецца і ў дэкарацыях: тут усё збалансавана, няма вычварнасці, непатрэбнай стракатасці, кожны прадмет нясе сэнс. У ЦЮГу над сцэнай «лунае» Амур, ахутаны белым святлом, у Маладзёжным тэатры на блакітным задніку сцэны намаляваны вялізны кіт.

Відавочна, што рэжысёры хацелі зрабіць акцэнт менавіта на пластыцы акцёраў. У пастаноўцы «Крыху пяшчоты» старыя кабеты, узгадваючы сваю маладосць, ператвараюцца ў юных дзяўчат. П'ера, як газель, бегае па сцэне, рукі Нанды (Л. Горцава) грацыёзна рассякаюць паветра, малюючы ў ім розныя фігуры... Раптам — імгненне поўнага аслупянення. Жанчыны стаяць, як статуі, а пасля зноў пачынаюць рухацца, толькі ўжо як старыя. Так проста, але колькі ў гэтай прастасці глыбіні ды псіхалагізму!

Маладзёжны тэатр увогуле задзейнічаў у спектаклі дзеючых асоб, якія ўвесь час застаюцца на сцэне, каб дапамагаць акцёрам і перасоўваць дэкарацыі. На жаль, у сучасным тэатры падобны прыём выкарыстоўваецца рэдка, хаця ён не толькі спрашчае працу з дэкарацыямі, але і надае спектаклю дадатковы каларыт.

Што ж, нашы тэатры здолелі знайсці для выдатных трагікамічных п'ес А. Нікалаі неабходную форму, якая не скажае змест, а, наадварот, дапаўняе яго, робіць з пастановак сапраўдныя цукеркі. Аднак гэтыя цукеркі не толькі нясуць асалоду, але і расплюшчваюць вочы на горкую праўду жыцця.

Дзіўныя горка-салодкія цукеркі... З'еш іх — і... горка. Ад таго, што дзеці не разумеюць бацькоў, бацькі не разумеюць дзяцей. І ў абедзвюх п'есах асяроддзе не разумее галоўных




герояў. Яны адзінокія ў сваім жаданні быць свабоднымі. Але адчуваеш і нейкую асалоду. Бо Нэніл і Мімі ўцякаюць з дома састарэлых. А сын Чэлесціна засынае з вудай у руках... Мы верым у магчымасць будучага шчасця.

Дык ці заўсёды чалавек свабодны? Напэўна, вырашаць яму.



Асветніцкі класіцызм у літаратуры Венесуэлы звязаны з творчасцю вучонага, грамадскага дзеяча, паэта Андрэса Бельё (1781—1865). Ён нарадзіўся ў Каракасе. Рэвалюцыйная хунта ў 1810 годзе паслала Бельё дэлегатам у Лондан, дзе ён абараняў інтарэсы маладых рэспублік і выдаваў часопісы на іспанскай мове. З 1829 года жыў у Чылі, узначальваў Чылійскі ўніверсітэт.

## Андрэс БЕЛЬЁ

### Сельскай гаспадарцы ў трапічнай зоне

*Трапічнай зоне ўдзячна шлю вітанне*
*і слаўлю дух яе жывы,*
*зямнога ўлоння мілаванне,*
*і шлях планеты кругавы,*
*і сонца, што напорыста і спорна*
*цябе сілкуе моцай дабратворнай.*
*Шчаслівая зямля, сабе ты ўжо сплята*
*гірлянды з каласоў на ніве спелай,*
*крывёй сваёю гронкі наліла,*
*і ў бочках чырванню яна запела.*
*Здзіўляюць колеры тваіх пладоў —*
*агністы, вохрысты, румяны,*
*і мноства водараў духмяных*
*разносіць ветрыкам з тваіх садоў.*
*І цягнуцца ў далінах доўгім цугам*
*паўз рэчкі, дзе чысцейшая вада,*
*твае чароды паміж гор паўкругам*
*да снегавых вяршынь,*
*бліскучых, як слюда.*
*Твой цукар з трыснягу —*
*ад мёду саладзейшы,*
*міндальны ўзбіты сок —*
*за малако смачнейшы,*
*у кубак налівай і, можа, не адзін.*
*Твае калючыя напалі**
*дзівосны нам даюць кармін.*
*Купцы кармін, убачыўшы, хапалі —*
*Замена пурпуру, якім быў слаўны Цір.*
*Індыга твой зіхціць, нібы сапфір.*
*Ты дорыш хмельны нам агавы сок*
*і ліст мультану дорыш з агарода,*
*і мы ўдыхаем з асалодай*
*цыгарны дым, і ён аж да аблок*
*сплывае ўверх, а згорнеш самакрутку —*
*у працы перакур, суцеха ў смутку.*
*Твае прывабнейшыя пальмы*
*на дзіва шчодрыя заўжды,*
*у прастаце патрыярхальнай*
*даюць нам спелыя плады.*
*Твой залацісты ананас*
*амбрhọзіяй харчуе нас.*
*Дарамі юкі** клуні поўны*
*пад жыватворным сонцам поўдня.*
*А над зямлёй, з галовы перад копкай,*
*даспелі клубні бульбы сопкай.*
*Бавоўны поле раніцой*
*аж вочы слепіць белізной.*
*А вось маіс — у злакаў цар,*
*яму пасуе гэты чын:*
*штогод яго багаты дар,*
*а зерне зззяе, як бурштын.*
*Лістоты шум чуваць здаля —*
*схіліўся да цябе, зямля,*
*банан вагомымі пладамі —*
*твой лепшы сын, любімец даўні;*
*не, не сялянскімі рукамі,*
*не потам вырас ён людскім,*
*і лішняя яму паслуга*
*нажніц садовых альбо плуга, —*
*убогі раб сачыў за ім.*
*Не чалавек — экватар урадлівы*
*падняў увысь бананаў гай шумлівы,*
*калі ж сцяблу засохнуць немінуча,*
*з зямлі атожылкі тады палезуць кучай.*
*Здаецца, што бясконцы глебы гумус,*
*аднак хапіла ёй бяды і глуму,*
*запас зямнога ўлоння змардаваны,*
*і хто зямлі яе залечыць раны?*
*Не, дабрадаць прыроды не навек, —*
*ці прыйдзеш на падмогу, чалавек,*
*зямлі стамлёнай, што цябе ўскарміла?*
*Святая вёска стала ўжо нямілай,*
*дзе весела і хораша было.*
*Куды ўсё ж славалюбства занясло*
*цябе ад мірнага парога?*
*Вядзе нікчэмная дарога*
*цябе ў чужыя гарады,*
*дзе дабрадзейнасці знікаюць і сляды,*
*дзе хамства і распусты дужа многа,*
*дзе ў насалодзе змарнаваны дні,*
*дзе толькі гонар і раскоша ў мазгаўні.*
*Пакуль лухтой падобнай галава забіта,*
*зямля, як маці родная, забыта,*
*пакуль сыны яе ідуць на здраду,*
*дык бухне полымя з грамадскага разладу.*
*Там з дзён маленства —*
*горыч і пакуты,*
*разбэшчанасць і блудства —*
*дзве атруты.*
*Не ў працы і не ў клопатах суровых*
*дні працякаюць юнакоў здаровых, —*
*ці то ў забавах, поўных мітусні,*
*ці то ў абдымках дзікае гайні,*
*і малады патрачаны запал*
*на карты, скокі і бяздумны шал;*
*сагнута постаць і слязяцца вочы,*
*а гэта ўсё — пагібельныя ночы.*
*Не ў гарадах, радзіма,*
*знойдзеш моладзь ты,*
*дзе ўсе, як ёсць, і сёстры, і браты,*
*што стануць лепшай для цябе апорай.*
*Калі ж абрынуцца бяда і гора,*
*змаглі б, скажыце, вы,*
*атрэп'е п'янага разгулу,*
*сярод агню, і скрогату, і гулу*
*змагацца, як ільвы,*
*ды ўмець, прычым,*
*стрымаць напор эмоцый?*
*Не, дух у вас не той, і мала ў целе моцы.*
*І не пад сілу вам трымаць*
*турботы цяжкія дзяржавы,*
*не вам закон не парушаць,*
*караючы любімцаў славы.*
*Радзіма, не — як маладзі не да прагрэсу,*
*не прычакаць мужоў вайны,*
*мужоў кангрэсу.*
*Калі б мая была на тое воля,*
*аддаў бы я стырно,*
*з падтрымкаю людзей,*
*рукам, што баразнілі плугам поле,*
*таму за крэмень і цяпер цвярдзей.*
*Рукам сялянскім, толькі ім,*
*спазнаўшы мудрасці элінскай,*
*удзячны Старажытны Рым,*
*схіліўся свет перад якім —*
*палонны ў доблесці лацінскай.*
*Паўднёвая Амерыка мая,*
*свабодных нацый юная сям'я,*
*перад Еўропай ты не хмурыш бровы*
*і прапаведуеш радство*
*і вольнасці вянок лаўровы!*
*Дык палюбі ж і рамяство*
*сялянскае, як і жыццё народа!*
*І вечна будзе жыць свабода,*
*і пыха знікне праз маленне,*
*і маладое пакаленне*
*прымножыць славу ратную бацькоў.*
*Яно якраз і вартае байцоў,*
*перад якімі з роспачы самлеў*
*і ўпаў да іхніх ног іспанскі леў.*

* **Напаль** — разнавіднасць кактуса.
** **Юка** — расліна, распаўсюджаная ў Цэнтральнай Амерыцы, вядома больш як 30 відаў.



Андрэс Элой Бланка (1897—1955) — венесуэльскі паэт, грамадскі і палітычны дзеяч. Быў старшынёй Народнага сходу і міністрам замежных спраў. Пасля перавароту ў 1948 годзе эмігрыраваў у Мексіку. Аўтар кніг паэзіі «Мая зямля», «Песня Іспаніі», «Час стрыжкі дрэў», «Каменны карабель» і іншых.

## Андрэс Элой БЛАНКА

### * * *

*Ужо не дзевяць муз, а сто адразу*
*падобных боствам звабіў вершаў сцяг.*
*Каб развінуць паэзіі абсяг,*
*няўмела мы жывую мучым фразу.*

*Не чутае раней — то наш закон,*
*мы ўсе жывём хвілінамі экстазу...*
*Калі паветра кружаць рэшткі джазу,*
*стары ў куце зяхае Апалон.*

### Чаплі

*Гэта — воблака?*
*Гэта — белая кропка ў колеры сінім?..*
*Не, мой сябра,*
*Гэта вывадак чапляў...*
*Яны — нявесты Рэчкі...*

### Строфы бадзяжнага кахання

*Усмешкай мой дом асвяціла*
*і ў сэрца маё зайшла.*
*Была ты і ўвечары мілай,*
*і ў досвітку любай была.*

*Затым у тумане хмура*
*абрыс твой мігцеў праз даль,*
*як пеністая скульптура*
*на п'едэстале хваль.*

*Ярчэйшую зорку ў полі*
*шукаў я на схіле дня,*
*прывязаны да сваёй долі,*
*як раб — да хваста каня.*

*І, стоячы ўжо на пагорку,*
*глядзеў запытальна ў твар:*
*ці трэба шукаць мне зорку,*
*калі я нябёс валадар?*

*Рукой да цябе кранаўся,*
*запал твой, сум адчуваў,*
*але пакахаць баяўся,*
*баяўся — значыць, кахаў.*

*У позірку зачаравана*
*агонь не гарэў ярчэй,*
*а ты цалавала аддана*
*мяне зіхаценнем вачэй.*

*Той ноччу ўцячы ад страсці*
*твая рука не змагла:*
*мая — на тваім запясці —*
*карсарскім кругом была.*

*Дрыжалі з нуды, з трывогі*
*губы ў цябе, калі*
*твае палахлівыя ногі*
*у пастку маю ішлі.*

*Далей ты пайшла — такая ж,*
*сціраючы ўсе сляды,*
*яркая зорка марская*
*на сіняве вады.*

*Ці ўспомніш калі былое?*
*Магічны карсарскі крук.*
*Я ж адчуваю: двое*
*ужо не звядуць сваіх рук...*

*Здаецца, досвіткам раннім,*
*ледзь заўтрашні дзень зірне,*
*былое — блакітным ззяннем —*
*мільгнецца ў тваім акне.*

*І тут сярод пылам пакрытых*
*сшыткаў, зжаўцелых руж,*
*сярод пасланняў забытых*
*і непасланых — каму ж? —*

*дзівячыся нямала,*
*знойдзеш пасланне адно,*
*быццам на дне бакала —*
*на плямах вінных яно.*

*І скажаш унучцы гэтак,*
*не хілячы галавы:*
*— То верш дзівака-паэта,*
*быць можа, яшчэ жывы.*

*А ўнучка праз міг спытала:*
*— Які ён? Яго ж нестае!*
*Попелам пазамятала*
*яго валасы, як твае?..*

*Я мроіць буду спатканнем*
*над морам і ў мора на дне,*
*і стане жыццё чаканнем,*
*пакуль і жыццё не міне.*

*Кахалі ды моцна любілі*
*на хвалях і шчасця, і бед.*
*Чаго ж не падзялілі,*
*за што мне такі пераслед?*

*Хацеў бы я рык бяздоння*
*крыкам душы пабароць:*
*дай жа на міг сягоння*
*убачыць яе, Гасподзь!*

*Напеў мой ляціць на ўзмор'е*
*туды, дзе яна ідзе,*
*і дзе не адно сузор'е*
*жалобаю на вадзе.*

*Ці ўспомніш калі былое?*
*Каханне, яно для мук.*
*Я разумею: двое*
*ужо не звядуць сваіх рук.*

*Была ты і будзеш мілай,*
*хаця сівізна на скронь.*
*Кахання, што з нас пакпіла,*
*Цяпло зберажэ далонь.*

### Цягнік

*Раптоўна, апоўдні,*
*пачуўся гудок паравоза,*
*неразбаўлены, цалкам, увесь,*
*нават з далёкім водгуллем.*
*Доўгі, станчэлы хвост пацягнуўся*
*за ядром магутнага гуку,*
*было зразумела — састаў адыходзіў.*

*Гудкі — гукавыя каметы.*
*Мы крыху падбадзёрыліся,*
*ды зноў пазмрачнелі.*
*На хвіліну састаў*
*нас замчаў на блакітнае поле.*
*Той гудок у нашым гаркотным сне —*
*аварыйны клапан надзеі.*

*Наш свет, здавалася, сышоў з тармазоў*
*і крануўся ў дарогу.*
*Мы доўга слухалі*
*і ачуліся не адразу.*
*Быццам індзеец, які не патрапіў у цэль*
*апошняй стралою.*
*Ён ловіць яе адлятаючы гук,*
*і марудна расцікаючца сэрца і лук.*

**Пераклад з іспанскай Віктара Гардзея**

# Песня нівы

Адна з тых міфатворчых адзінак, якія не перастаюць разгортвацца ў культуры, — старажытны біблейскі міф пра Запаветную Зямлю. У VI — V стст. да н. э. ён узноўлены ў прароцкім вобразе «новай зямлі і новага неба», сімвале грамадзянскай згоды, ладу і дабрабыту. Побач існавала ўніверсальная мадэль на тую ж тэму, далей разгорнуты міф: мара пра сусветную гармонію, пра лад і згоду ўжо між народамі. У гэтым жа рэчышчы пратэстанцкая культура актуалізуе «Горад на пагорку». Коласаўская «Новая зямля» — беларускі ўнёсак у знакаміты міф. Відавочна, што культурны лейтматыў «новай зямлі» вельмі блізкі да таго, што А. Лосеў назваў «абсалютным міфам», актуальным для ўсіх нацыянальных культур.



*Анонс першай публікацыі рамана «Плённасць» у газеце L'Aurore.*

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Выбітнаму міфолагу належыць таксама панццэ «ідэальнага тыпу міфадыялектыкі». Напэўна, яно нарадзілася праз веру ў тое, што няспынная разгортванне, паступовае каардынаванне нацыянальных інтэрпрэтацый «абсалютнага міфа» калі-небудзь прывядзе яго да здзяйснення.

Такім жа чынам, як Коласава «Новая зямля» (1923) — беларускі голас у сусветнай міфатворчай «нарадзе» па высвятленні сутнасці гармоніі, «Чатыры Евангеліі» (1899 — 1903) Э. Заля — голас культуры французскай. Падобна Кнізе Быцця як метатэксту ўяўлення пра Запаветную Зямлю, абодва творы адчуваюць сябе «ў пачатку»: цыкл Э. Заля адкрывае новае стагоддзе, паэма Я. Коласа належыць да вытокаў новай беларускай культуры. Дарэчы, сённяшні чалавек таксама адчувае сябе «ў пачатку» пасля культурнага крызісу «пост», што павялічвае цікавасць да адпаведных эпізодаў культурнай і літаратурнай гісторыі. Мае падабенства і шлях стварэння «Новай зямлі» і апошняга цыкла Э. Заля: калі Коласаў твор нараджаўся ў турме, то першае «Евангелле» — раман «Плённасць» (1899) — у выгнанні, у Англіі, дзе пісьменнік быў вымушаны шукаць прытулку пасля неспрыяльнага развіцця «Справы Дрэйфуса» на пачатку 1898 г.

Раман Эміля Заля і паэма Якуба Коласа — міфадыялектычныя ўзоры не толькі ў адносінах да метатэксту, да міфа пра Запаветную Зямлю, але і ў адносінах адзін да аднаго, дакладней, французскі раман — у адносінах да беларускай паэмы, незалежна ад храналагічнай паслядоўнасці з'яўлення, што ў міфатворчым кантэксце даволі ўмоўна: больш ранні твор «Плённасць» — нібы працяг больш позняга Коласавага твора. Герой Э. Заля, набыўшы праз шмат перыпетый надзел зямлі, паступова ператварае яго ў бязмежны ўрадлівы край з вельмі красамоўнай назвай Шантэбле (Chanteble', фр. — «песня нівы» або «ніва, якая спявае»). Належыць яна адной сям'і, але шматдзетная сям'я паступова пачынае ўяўляць сабой цэлы народ, чый плённы пасуседзённы досвед тварэння ў розных галінах паўстае прыкладам сусветнага значэння.

Відавочна, што перад намі жанр утопіі, які не вельмі шанавала ХХ стагоддзе. Не зрабіла яно выключэння і для міфаўтопіі: твор Э. Заля дагэтуль знаходзіцца на перыферыі ўвагі літаратуразнаўцаў, нягледзячы на першыя, надзвычай высокія водгукі 1900-х гг., калі ў свеце яшчэ не паспелі спужацца здзейсненых утопій. У параўнанні з «Новай зямлёй» цікава, што сучаснікамі настойліва вылучаліся жанравыя якасці «рамана-паэмы», «паэмы жыцця».

Каб падкрэсліць галоўную паралель, звернем увагу на тое, што тэма зямлі ў рамане «Плённасць» пададзена пісьменнікам прынцыпова іначай, чым калісьці ў рамане з адпаведнай назвай («Зямля», 1887). Там зямля паўставала крыважэрнай пачварай, увасабленнем смяротнай жарсці ўласніцтва, якая вымушае ахвяраваць светлым пачуццём радасці быцця, годнасцю, нават жыццямі родных і блізкіх. У «позняга» Э. Заля тэма зямлі максімальна блізкая яе трактоўцы ў беларускай класічнай літаратуры: гэта духоўная каштоўнасць.

Дзякуючы грунтоўнай блізкасці двух твораў мы маем падставы для параўнальнай актуалізацыі пераважна латэнтных высноў Коласавай паэмы, тых, якія былі б на паверхні, калі б Міхалу насамрэч давялося гаспадарыць на ўласнай зямлі (або калі б перад намі быў досвед сённяшняга селяніна, для якога мецьзямлю — справа цалкам рэальная). Дзеля гэтага варта адзначыць шэраг хадоў і прыёмаў, праз якія ў творы французскага пісьменніка пададзена непрагматычная каштоўнасць ажыццёўленага землеўладання.

Перадусім, гэта кантраст, паслядоўнае дэманстраванне, як побач з набыццём зямлі — падставай жыццятворчасці — імкнецца спраўдзіцца небыццё, эгаістычнае стаўленне да сусвету, адчужанае ад творчага патэнцыялу праз адмову ад дзетанараджэння і землекарыстання. Заможныя французы імкнуцца да канцэнтрацыі капіталу, які захоўваюць дзеля адзінага нашчадка. Сярэднія і ніжэйшыя слаі прагнуць раскошы, марацьпра пераўзыходжанне сацыяльнага статусу. У загане ідэал жанчыны-маці, бо ўсё большую папулярнасць набывае дэкадэнцкі ідэал бясплоднага кахання. Эгаізму «дасведчаных» парыжан не саступаюць і сяляне, упэўненыя, што «грошы растуць толькі на парыжскім бруку», а зямля, якая карміла іх продкаў, цалкам і назаўсёды страціла ўрадлівыя якасці. Бясплоднае ў біялагічным сэнсе, жыццё цывілізаваных французаў урэшце паўстае як марнатраўнае і ў сэнсе метафізічным: няма творчага праекта быцця, праз якое чалавек толькі і ёсць «вобраз і падабенства» Вышэйшага Творцы, — няма чалавека ўвогуле (ёсць індывід або сацыяльны тып), і ўрэшце няма нацыі. Вопыт Мацьё Фрамана, веліч яго пладаноснага поля і гонар шматлікай сям'і — здзейсненыя пратэст супраць усёй гэтай — свядомай і несвядомай — прагі смерці.

Землеўладанне і ў паэме Коласа супрацьпастаўленае першым чынам нават і не бядоце — нядолі — прынуцы, сацыяльным атрыбутам беззямелля, хоць і яны адзначаныя вельмі выразна, але перадусім — марнатраўству быцця, творчай бясплоднасці. Нават роспач няпэўнасці часовага гаспадарання — не асноўнае ў трагедыі «няўласнай зямлі»: побач са сцісканнем годнасці, самае балючае — сціскання патэнцыялу стварэння, перашкода жыццятворчасці на індывідуальным і, урэшце, нацыянальным узроўні.

Цікава, як у рамане Э. Заля прадэманстраваная сувязь высокай нараджальнасці і паспяховага землекарыстання. Чым больш дзяцей, тым мацнейшы імпульс працы і наадварот: чым лепш ідзе праца, тым больш дзяцей можа дазволіць сабе сям'я. Дзеці ж — патэнцыял далейшай плённасці. Мацьё Фраман вырашае набыць зямлю тады, калі нараджаецца чацвёртае дзіця і сям'я вымушаная перабрацца з горада ў вёску. На фоне дэмаграфічнага крызісу «канца стагоддзя» досыць нечакана, што падставай набыцця зямлі становіцца не толькі страх «бадзяцца батракамі», але і жаданне забяспечыць будучых дзяцей. Упэўненасць, што дзеці — «плады кахання і веры ў жыццё», — падстава паэтызацыі землеўладання як жыццятворчасці і ў прамым, літаральным сэнсе. Але цяжка ў такім кантэксце казаць пра «біялагізм». Зноў і зноў акцэнтаванае адзінства пладавітасці — урадлівасці — плённасці, адзінства зачацця і сяўбы, кахання і стварэння, малака маці і «сокаў зямлі» — высокая анталагічная паэзія.

Міфадыялектычны ракурс дазваляе перагледзець і тое крытычнае непаразуменне, згодна з якім раман Э. Заля лічыцца недапрацаваным і нават непаўнавартасным з-за вялікай колькасці ў ім «стамляючых паўтораў». Праз прызму міфадыялектыкі відавочна, што такія «паўторы» прызваныя падкрэсліць каштоўнасны сэнс Пачатку як плённага вытоку ўсякага пазітыўнага руху. Гэтаксама ў Біблії няспынна нагадваецца пра Свяшчэннае Абяцанне, якому павінны імкнуцца адпавядаць нашчадкі Аўраама. З кожным новым поспехам вытокнамаганняў набывае дадатковыя адценні сэнсу і паступова пачынае ўспрымацца як паданне, легенда, міф, услед за чым досвед сям'і цалкам набывае міфалагічны статус. Дарэчы, і ў «Новай зямлі» перманентны рэфрэн пра ўласную зямлю нагадвае пра неабходны выток усякага плёну — мару, дзе ўжо закладзены патэнцыял здзяйснення. І тут таксама стылістычны ход паўтору, падкрэсліваючы значнасць вытоку, падкрэслівае сутнасць руху, які, паводле Гётэ, «заўсёды каля мэты, але ўсё яшчэ ў пачатку», і таму вымагае няспыннасці імкнення і дзеяння.

З матывам Пачатку цесна стасуецца тэма Пустэчы. Селянін, бядняк увогуле, калі і набывае зямлю, набывае, паводле рамана Э. Заля, «калючы хмызняк», «балоты», «кінутыя землі, где спрадвеку радзіўся толькі трыснёг», — надзел, на якім, як кажуць суседзі, «не збярэш нічога, акрамя жаб і камянёў». Як не прыгадаць з «Новай зямлі»: «Зямля запушчана ў васпана; / Пакрыта скураю дзірвана... / Чартапалох буяе дзікі!..»; «Зрабі зямлю з такой аблогі!» Але менавіта так выяўляецца творчы патэнцыял чалавека-працаўніка: творчы роздум інтэрпрэтуе Нішто пустэчы як патэнцыяльнае Нешта. Падобна да таго, як Міхал бачыць у дзірванах «лавы» засеяных «уласнаю рукою» жытоў, прыкідвае «рахункі важнай справы» і герой Э. Заля, мяркуючы, як ён прараздзіць лес, адвядзе ваду з балот на камяністыя надзелы і ўрэшце зробіць кінутую зямлю прыдатнай для ўдзячнай працы.

Памятаем, што і жыццёвы шлях Міхала з «Новай зямлі» — таксама перманентнае адраджэнне пустэчы: не праз «пярэбары», дык праз пажар. Тут, бадай, сумней за відовішча пустэчы — адсутнасць сцвярджэння намаганняў, няспраўджанае Абяцанне, якое, аднак, застаецца неадменным да канца твора і вымагае далейшай міфадыялектыкі, сучаснага разгортвання Коласавага «міфа».

# Фердынанд Нойрайтэр. Шлях да Беларусі

Імя перакладчыка і даследчыка беларускай літаратуры Фердынанда Нойрайтэра (1928 — 2007) не шырокавядомае ў Беларусі, але менавіта гэты чалавек адкрыў для нямецкамоўнага чытача нашу краіну.

**Марына ЗАПАРТЫКА**

Нойрайтэр з юнацкіх гадоў цікавіўся замежнымі мовамі, асабліва моцна яго прыцягвалі тыя з іх, якія былі маладомымі ў Заходняй Еўропе. Ужо ў 14 гадоў ён набыў невялічкі падручнік па рускай мове, каб самастойна займацца яе вывучэннем.

Аднойчы юнак заўважыў у адной з венскіх букіністычных кнігарань цікавае выданне: «...адразу ж пасля Другой сусветнай вайны, калі ўбачыў у адным з венскіх антыкварыятаў маленькую кніжачку пад назвай «Беларускі моўны дапаможнік, прызначаны для вясковых работнікаў» (Берлін, 1942) Ганца Лёе, купіў яе за некалькі грошаў (сёння гэтаму майму набытку зайздросціць нават Бібліятэка Францішка Скарыны ў Лондане). <...> Гэта была мая першая беларуская кніга».

На пачатку 1960-х гадоў даследчык пачаў актыўна вывучаць польскую і кашубскую мовы. Дарэчы, вынікам гэтых заняткаў стала вялікая колькасць навуковых прац і літаратурных анталогій. Веды даследчыка пашырыліся настолькі, што ён адчуў патрэбу падзяліцца імі: у Зальцбургскім народным універсітэце распачаў курс лекцый «Менш вядомыя народы Еўропы». У курс былі ўключаны асобныя раздзелы, прысвечаныя палякам, славакам, украінцам, славенцам і, зразумела, беларусам. І вось тут Нойрайтэр сутыкнуўся з цяжкасцямі, таму што на той момант на Захадзе не было фактычна ніякага матэрыялу па беларускай культуры ці літаратуры. Вывучаючы гісторыю Беларусі, даследчык карыстаўся кнігай Яўгена Энгельгарта «Беларусь» (Берлін, 1943), некалькімі кнігамі, выдадзенымі ў 1950-я гады беларускай эміграцыяй у Мюнхене, яшчэ атрымалася набыць том Міхаіла Маскаліка «Янка Купала» (Мюнхен, 1961), дзе былі змешчаныя пераклады на нямецкую мову ў прозе, але гэта не задавоціла яго, і ён вырашыў заняцца перакладамі самастойна. «Аднак, тут я напаткаў вялікія складанасці, таму што аніяк нідзе ў свеце не змог знайсці беларуска-англійскага, беларуска-нямецкага, беларуска-французскага, нават беларуска-польскага слоўніка, які меў бы патрэбныя мне словы. А ад таго, што мае веды па рускай мове не дасягалі больш таго, што «я говорю очень плохо по-русски», я дапамагаў сабе тым, што кожнае слова спачатку шукаў у беларуска-рускім слоўніку, а затым стараўся знайсці яго ў руска-нямецкім. Нягледзячы на гэта, я зрабіў некалькі «мастацкіх» перакладаў з беларускай паэзіі...» Наперакор усім праблемам, з якімі сутыкнуўся перакладчык, вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Рыгора Барадуліна загучалі на нямецкай мове.

Праца захапіла. Нойрайтэра ўжо ведалі як аўтара анталогіі кашубскай літаратуры і даследчыка, які займаецца беларускай літаратурай. Вядомы ў Англіі культурна-рэлігійны дзеяч айцец Аляксандр Надсан выказаў меркаванне, што добра было б зрабіць падобную анталогію беларускай літаратуры для нямецкамоўных чытачоў, і ўгаварыў заняцца гэтым. Дзякуючы дапамозе айца Аляксандра «Беларуская анталогія: Хрэстаматыя па беларускай літаратуры (з нямецкімі перакладамі)» (Мюнхен, 1983) Ф. Нойрайтэра пабачыла свет. У яе былі ўключаны творы сарака беларускіх пісьменнікаў XIX — XX стагоддзяў, у тым ліку Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Казіміра Сваяка.

Фердынанд Нойрайтэр пераствырыў многія беларускія творы, наша літаратура дзякуючы навуковым працам і перакладам стала больш адкрытай і вядомай нямецкамоўнаму чытачу. Сам даследчык заўсёды казаў, што ні на хвіліну не пашкадаваў, што звязаў свой творчы лёс з беларускай літаратурай.

# Класіка ў смокінгу

**Таццяна СІВЕЦ, фота аўтара**

Як прымусіць падлеткаў чытаць класіку?

Зняць паводле яе фільм? Стварыць камп'ютарную гульню? Уключыць у школьную праграму?

Калі на першыя дзве прапановы можна даць станоўчы адказ, то наконт апошняй я б не была так упэўнена... Творы са школьнай праграмы звычайна «праходзяць», так што толькі праз вельмі доўгі час даводзіцца перачытваць іх — часам ужо разам са сваімі дзецьмі ці ўнукамі — і шкадаваць пра тое, што было прапушчана.

Узяць хаця б тую самую «Новую зямлю» Якуба Коласа. Навошта чытаць доўгі вершаваны твор, калі любы школьнік можа«загугліць» кароткі змест, а яшчэ лепш — гатовыя развагі на тэму «што хацеў сказаць аўтар птушкай»?

Адразу магу папярэдзіць: спектакль, пра які пойдзе гаворка, не прапануе гледачам «гатовы прадукт». Тут аніяк не абысціся без папярэдняй падрыхтоўкі і наступнага абмеркавання (канечне, не на ўзроўні «спадабалася — не спадабалася»). Незалежна ад узросту, гледачам давядзецца карыстацца ўласным вопытам, ведамі пра жыццё і яго законы, а таксама практычна ўвесь час адказваць на пытанне «чаму?».

Чаму гэтага адказу нельга атрымаць на трэцяй хвіліне дзеі, як ва ўсіх прыстойных тэле- ці кінажуйках?

Магчыма, таму, што рэжысёр Уладзімір Савіцкі (на сцэне ТЮГа ён паставіў таксама спектаклі «Пан міністар», «Крыху пяшчоты», «Майго юнацтва крылы») ніколі не пазбаўляе свайго гледача права хаця б на час спектакля стаць яго сутворцам, зазірнуць ва ўласную душу і са здзіўленнем выгукнуць: «Гэта ж як пра мяне!»

А хіба не пра нас, сённяшніх, што часта мусяць пакідаць свае вёскі ды мястэчкі, нават краіну сваю дзеля лепшай долі, радкі Якуба Коласа:

*Мой родны кут, лугі, крыніца!*
*Цяпер для вас я — чужаніца.*
*Той самы лес, палеткі тыя,*
*Ды людзі там жывуць другія.*

Партрэт Якуба Коласа, асветлены пражэктарам, голас самога аўтара — «за Коласа» ў спектаклі прамаўляе заслужаны артыст Беларусі Барыс Барысёнак — усё гэта дае зразумець, што на сцэне не будзе «асучасненай» версіі, а будзе ў лепшым сэнсе гэтага слова «класічная» пастаноўка, дзе галоўныя героі, апранутыя не ў лапці ды кажухі, а ў лакавыя чаравікі ды смокінгі, прамаўляюць словы, пакінутыя прызнаным класікам нашай літаратуры. А вось сэнс, які ўкладзе ў гэтыя словы глядач, залежыць толькі ад яго самога. Ды, зрэшты, што можна «асучасніць» у вечным пошуку «сваго месца» ў гэтым свеце!

*А дзе ж той выхад? Дзе збавенне*
*З няволі цяжкай, з паланення?*
*Адзін ён ёсць: зямля, зямля,*
*Свой пэўны кут, свая ралля:*
*То — наймацнейшая аснова*
*І жыцця першая умова.*

Ад гэтага ўнутранага пошуку разам з героямі — братамі Міхалам і Антосем, ролі якіх выконваюць артысты Мікалай Лявончык і Іван Шрубейка, — нічога не адцягвае ўвагу: апроч згаданага партрэта на сцэне — два крэслы, два ліхтары-пражэктары. Аднак аднекуль з амаль графічнай дакладнасцю вымалёўваецца ва ўяўленні дарога — сімвал жыцця герояў, іх лёсу і памкнення. Калі ў зале маладыя ўсмешлівыя твары тых, для каго ўсё яшчэ наперадзе, робіцца надзвычай складана патлумачыць Коласава:

*Мне душу смуткам напаўняе,*
*Што ў прошласць канулі гадочкі,*
*Мае шчаслівыя дзянёчкі, —*
*Прайшла, вясна ты маладая!*

Мікалай Лявончык прызнаўся неяк, што ніколі не забудзе, як іграў гэты спектакль у Доме ветэранаў. Тады ў зале панавала пранізлівая цішыня... На артыстаў глядзелі тыя, хто прайшоў ужо большую частку ўласнай дарогі, хто ўжо ведае, «што ён — пылінка, а век людскі — адна хвілінка».

Сённяшніх школьнікаў немагчыма здзівіць спецэфектамі, яны штодня бачаць тузін фальшывых «зорак», якія раскрываюць ім свае «сакрэты», а ці часта яны сутыкаюцца з Праўдай — непрыхарошанай, балючай?.. Так, гэтым іх яшчэ можна здзівіць: і рэжысёр паказвае свайму гледачу двух сталых працавітых людзей, якія не згубілі пакуль прагі жыцця і імкнення адчуць сябе гаспадарамі на ўласнай зямлі, у сваёй краіне, расказвае, якія перашкоды ім даводзіцца пераадолець, ідучы да мары, не хавае ні бюракратыі, што не знікла праз стагоддзе (і пэўна, не знікне ніколі), ні таго, што часам варта пайсці на хітрыкі, каб дайсці да канца сваёй дарогі. Так, дзядзьку Антосю нават даводзіцца даваць хабар (што думаў ён у той момант, як «мусіў даць рубля за справу», цудоўна перадае І. Шрубейка).

Але перасцярогай на шляху — лёс ваўка, які ў адначассе гіне на вачах у Міхала, захапіўшыся паляваннем, звярыным чуццём адчуваючы — смерць... А артыст адбівае ў гэты момант крэслам ці то апошнія імгнені ваўчынага існавання, ці то стук уласнага сэрца, ці то час, адмераны свайму герою...

Канец дарогі бачыць і Міхал. Да яго смерць прыходзіць як навала, ад яе не схавае, не захіне нават Маці, але ўсё адно апошнія думкі і словы яго — пра Зямлю...



Мяркую, што для захавання беларускай літаратуры, для пераасэнсавання нашай класікі гэты спектакль у Тэатры юнага гледача робіць больш, чым усе школьныя ўрокі. Застаецца не так і шмат — прыйсці ў тэатр і... пачаць думаць!

Чарговым разам «Міхалава зямля» ў афішы ТЮГа — 22 сакавіка. 19.00. Дом літаратара.

# Паглядзім Аляхновіча?

П'есы Францішка Аляхновіча, асабліва папулярныя ў першай палове XX стагоддзя, у 1990-я гады зноў з'явіліся на айчыннай сцэне і трывала замацаваліся ў рэпертуарах беларускіх тэатраў.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Чым жа тлумачыцца доўгі перапынак, а потым запозненае прызнанне? На першае пытанне адказаць дастаткова проста. Творчасць вязня ГУЛАГа па ідэалагічных прычынах была непрымальнай у савецкія часы. Зразумела, хваля пастановак на пачатку 1990-х была выклікана жаданнем тэатраў пазнаёміць публіку са спадчынай малавядомага творцы. Але з часам зрабілася відавочным, што інтарэс да Аляхновіча трывалы і доўгатэрміновы. Па-першае, ён выкліканы тым, што да якаснай беларускай драматургіі, якая была б цікавая айчынным рэпертуарным тэатрам, можна аднесці невялікую колькасць твораў. Па-другое, буржуазныя і местачковыя рэаліі пачатку мінулага стагоддзя зноў вярнуліся ў наша жыццё, тады як шэраг твораў К. Крапівы і А. Макаёнка, насычаных «сацыялістычнай» атрыбутыкай, звязаць з сённяшнім днём куды больш складана. Ф. Аляхновіч з'яўляецца аўтарам 17 п'ес. У Мінску сёння ідуць тры з іх.

П'еса «Адамавы жарты» была пастаўлена на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ў ліпені 2010 года. Рэжысёр Святлана Навуменка ажыццявіла ўласную інсцэніроўку паводле твораў Аляхновіча («Чорт і баба») і Леапольда Родзевіча («Збянтэжаны Саўка»). У цэнтры сюжэта — гісторыя сялян Саўкі і Марысі, якім імкнуцца нашкодзіць зайздрослівая Баба і Чорт. У выніку атрымаўся прыемны спектакль з элементамі народнай камедыі і «лубка». Ён не прэтэндуе на сур'ёзны мастацкі ўзровень, але карыстаецца поспехам у публікі.

Адзін з найбольш вядомых твораў Аляхновіча, «Пан міністар», быў пастаўлены ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача ў сакавіку 2011 года. Згодна з сюжэтам, свінабой Філімон Пупкін вырашае стаць міністрам і дзеля гэтага бярэцца за вывучэнне беларускай мовы...

З аднаго боку, атрымалася грунтоўная пастаноўка, якая выглядае дастаткова годна на агульным фоне сталічнага тэатральнага жыцця. З другога боку, спектакль быў заяўлены як фарс. Можна пагадзіцца з крытыкам Таццянай Команавай, якая заўважыла імкненне рэжысёра Уладзіміра Савіцкага правесці прамыя паралелі з купалаўскімі «Тутэйшымі» (дарэчы, абедзве п'есы былі завершаны амаль адначасова, у 1922 годзе). На яе думку, пастаноўшчык «увесь час намагаецца быццам бы пераканаць нас, што на самай справе Аляхновіч у сваім творы закладваў нашмат больш глыбокія думкі». Дарэчы, спектакль быў прадстаўлены на Другой Нацыянальнай тэатральнай прэміі. А акцёр Аляксандр Палазкоў, які выканаў ролю Філімона Пупкіна, перамог у намінацыі «Лепшая мужчынская роля».

Трэці твор Аляхновіча, «Шчаслівы муж» (1921), пастаўлены ў чэрвені 2011 года ў РТБД, быў заяўлены як музычная камедыя. Аднак рэжысёр Мюр Фарыдовіч інтэрпрэтаваў яго як фарс. Галоўная гераіня, летуценная мяшчанка Магдалена, стомленая сваім малацікавым і прадказальным мужам Гаўдэнтам, вырашае закруціць раман з графам Мацальскім. Але нават не здагадваецца, хто хаваецца за гэтым тытулам...

Трапляючы на спектакль, пастаўлены ў жанры фарсу, неаднаразова заўважаў: выканаўцы або застаюцца ў рэчышчы псіхалагічнага тэатра, або балансуюць паміж крыўляннем і пошласцю. Ствральнікі і дзейныя асобы «Шчаслівага мужа» здолелі вытрымаць фарсавую лінію (асабліва гэта датычыць першай дзеі). Спектакль пакінуў прыстойнае ўражанне, а калі ўлічыць, што гэта дэбют пастаноўшчыка, прыемна здзівіў. Згаданыя мінскія спектаклі паводле твораў Аляхновіча, пакідаюць спадзяванні на новыя адкрыцці і інтэрпрэтацыі твораў драматурга.

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2762
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.03.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1022
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686